

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 ЧЭРВЕНЯ 2000г. № 23—24/4055—4056 КОШТ 85 РУБ.





*У час рэпетыцыі. 1983 г.*



*З эстонскімі артыстамі пасля спектакля "Парог". 1986 г.*



*На радзіме. 1987 г.*





*З Валерыем МАЗЫНСКІМ. 1986 г.*

*Фота А. ПРУПАСА.*



*З Раісай БАРАВІКОВАЙ, Таісай БОНДАР і Нэлі ШЧАСНАЙ. 1986 г.*



*З Сяргеем ЗАКОННІКАВЫМ. 1992 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

*6 чэрвеня споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння вядомага драматурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксея ДУДАРАВА.*

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 3,7.*



# КОЛА ДЗЁН

***У 1987 годзе наша краіна выйшла на 10-мільённы ўзровень насельніцтва. І нейкі час здавалася, што з гадамі ў нас будзе жыць не толькі 11 мільёнаў чалавек, але і больш. Ды дзе там! Па стане на 1 мая 2000 года на тэрыторыі Беларусі жыло 10 мільёнаў 6 тысяч жыхароў. Словам, з пачатку года насельніцтва краіны зменшылася прыкладна на 13,5 тысячы. Асноўнай прычынай змяншэння колькасці з'яўляецца перавышэнне памерлых над народжанымі. Толькі за першыя чатыры месяцы ў краіне нарадзілася 29.341 чалавек і памерла 48.244. Па прагнозах спецыялістаў, ужо гэтым летам у Беларусі будзе жыць меней як 10 мільёнаў жыхароў. Сумна...***

## УКАЗ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка падпісаў Указ "Аб некаторых мерах па забеспячэнні насельніцтва рэспублікі кніжнай прадукцыяй, звязанай з адукацыяй, навукай і культурай, і аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання ў 2000—2001 гадах". Мяркуючы па тэксце указа, калі ўказ прэзідэнта будзе выконвацца, то павінны адбыцца значныя зрухі ў справе забеспячэння насельніцтва кніжнай прадукцыяй, звязанай з адукацыяй і культурай. Будзем спадзявацца, што яно так і будзе...

## ЗАПРАШЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнту Беларусі прыйшло запрашэнне прыняць удзел у саміце кіраўнікоў дзяржаў-членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які пройдзе 6—8 верасня ў Нью-Йорку. Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў праводзіцца па рашэнні Генеральнай Асамблеі ААН і ўжо атрымала статус "Саміта тысячагоддзя". Выступленне кіраўніка нашай дзяржавы запланавана на другую палову дня 6 верасня. А ўсіх выступоўцаў будзе больш за сотню.

## ПЕРАМОЖЦЫ ТЫДНЯ

У Польшчы прайшла Усяпольская алімпіяда па беларускай мове. Яе пераможцы, а гэта больш за 20 юнакоў і дзяўчат, а таксама іх выкладчыкі з беларускамоўных ліцэяў Беласточчыны некалькі дзён былі гасцямі Беларускага таварыства дружбы. Сямі фіналістам ва ўрачыстай абстаноўцы былі ўручаны прызы ад Беларускага таварыства дружбы, Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў, выдавецтва "Мастацкая літаратура", часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Нёман", газет "Культура" і "Літаратура і мастацтва", Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага фонду культуры і інш. Прыезд пераможцаў Усяпольскай алімпіяды ў Беларусь засведчыў, што беларуская мова жыве на Беласточчыне, і гэта надае веры, што наша мова, якая не загінула ў чужой дзяржаве, не загіне на роднай зямлі.

## НАВІНКА ТЫДНЯ

У Гродна 10-тысячным тыражом убачыў свет першы нумар газеты "Вечерний Гродно". Яе заснавалі — Гродзенскі гарвыканкам, РНА "Вечерний Брест" і рэдакцыя газеты "Вечерний Гомель — Экспрэсс". Такім чынам, вячэрнія газеты цяпер ёсць ужо ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі. Ды, на жаль, "Вечерний Гродно" — гэта яшчэ адно двухмоўнае выданне, у якім усё ж рускамоўных матэрыялаў больш, чым беларускіх.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне жыве больш за 2 мільёны дзяцей. З іх 1 546 119 ужо ходзяць у школу. У першы клас, дарэчы, у гэтым навучальным годзе, пайшло 123 574 чалавекі. А ўсіх агульнаадукацыйных школ і школ-інтэрнатаў у Беларусі — 4 616. З іх — 695 — пачатковыя, 1 027 — базавыя, 2 784 — сярэднія, 81 — гімназія, 25 — ліцэяў, 4 — каледжы. Ёсць і недзяржаўныя школы — 14, у якіх вучыцца 1 143 вучні. За папярэдні навучальны год атэстат аб сярэдняй адукацыі атрымалі 802 237 выпускнікоў. "Залатых" медалістаў было 4 853, а "сярэбраных" — 4 913. На паўторны год навучання засталося 9 251 вучань. На сённяшні дзень у школах нашай краіны ідуць выпускныя экзамены. Хутка стануць вядомыя выдатнікі. І хочацца верыць, што сярод медалістаў не будзе ліпавых...

## ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

З 1 чэрвеня пастановай Міністэрства эканомікі былі зацверджаны новыя тарыфы на электраэнергію, якія павялічыліся ў два разы. Цяпер гарадское насельніцтва будзе плаціць 7,2 рубля за 1 кВт/ч, а ў тым выпадку, калі кватэра абсталявана электрапліткамі — 5,2 рубля за 1 кВт/ч. Столькі ж — 5,2 рубля — прыйдзецца выдаткоўваць за карыстанне электраэнергіяй і вясковаму насельніцтву. Папярэдняя падвышка адбылася недзе месяц назад. Ці за гарамі наступная?

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Лета — пара адпачынкаў. Хто мае магчымасць — той едзе адпачываць далёка да мора, а каму і беларускія лес і рэчка — райскі куток. Аднак зусім нядаўна на тэрыторыі краіны быў часова забаронены ўезд любога транспарту ў лясы. На Міншчыне ў мінулыя выхадныя праваахоўнымі органамі была праведзена шырокамаштабная аперацыя, у выніку якой на парушальнікаў забароны было складзена 27 пратаколаў. Да ўсяго, у суботу і нядзелю на Міншчыне былі зарэгістраваны 44 новыя балотныя і 6 лясных пажараў. Зараз у сталічнай вобласці працягваюць дымець 18 пажараў на плошчы больш як 100 гектараў. Парушальнікі забароны на ўезд у лясы могуць быць аштрафаваны на суму ад адной да трох мінімальных заробтных плат. Службовыя асобы за такія правіннасці заплацяць ад 3 да 10 "мінімалак". Акрамя ўсяго, калі вас міліцыя напаткае каля вогнішча, вас аштрафуюць на 5 "мінімалак". Такое ж парушэнне пажарнай бяспекі службовай асобай будзе каштаваць ёй ад 5 да 25 "мінімалак". Словам, калі не можаце ў час свайго адпачынку паехаць да мора, то пакуль слякота, сядзіце дома...

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Як сведчыць статыстыка, у беларускіх сем'ях з кожным годам павялічваецца спажыванне алкагольных напояў. На іх набыццё, а таксама куплю тытуню затраты практычна аднолькавыя ва ўсіх групах насельніцтва і складаюць 5,3 працэнта ад іх даходаў. І ўсё ж мы жывём не адным алкаголем і тытунём. На працягу мінулага года на чалавека прыпадала ў сярэднім 48 кілаграмаў мяса, 120 кілаграмаў хлеба, 340 літраў малака, 9,4 кілаграма рыбы, 189 яек, 83 кілаграмы агародніны, 28 кілаграмаў садавіны і 25 — цукру. Аднак у 10 працэнтаў сем'яў з нізкім дастаткам спажыванне мяса і масла ў два разы ніжэйшае, чым у сярэднім па краіне, а агародніны і рыбы — у 2,4 разы.

## НЕДАРЭЧНАСЦЬ ТЫДНЯ

5 чэрвеня Інстытут беларускай культуры ў Варшаве меркаваў правесці прэзентацыю польскага перакладу "Сцяны" Васіля Быкава, але не змог. Не прыехаў пісьменнік, бо нямецкія ўлады прадоўжылі Васілю Быкаву візу на прабыванне ў Германіі на паўгода толькі як аднаразовую. І калі б пісьменнік выехаў у Польшчу, ён бы не змог вярнуцца назад.

## ЗНАХОДКА ТЫДНЯ

Склады бываюць розныя. Збожжавыя. Зброі. Абсталявання. А вось у Гомелі знойдзены падпольны склад сала, які належаў грамадзянам Украіны. Яго знайшла міліцыя ў раёне калгаснага рынку, у ім у "абсалютна антысанітарных умовах" захоўвалася каля 200 кілаграмаў прадукта, падрыхтаванага для рэалізацыі.

СУСТРЭЧЫ

# У імя дружбы

***Заўсёды лічылася: літаратура служыць магутным сродкам духоўнага збліжэння і ўмацавання дружбы паміж народамі, надзейнай крыніцай узаемаразумення і ўзаемапавагі. І вось доўгая паўза, якая назіралася на працягу апошніх гадоў у творчых адносінах паміж пісьменніцкімі арганізацыямі краін СНД, здаецца, скончылася...***

***З 31 мая па 3 чэрвеня ў Ялце (Крым) адбылася сустрэча прадстаўнікоў трох Саюзаў пісьменнікаў і літаратурных фондаў — Украіны, Расіі і Беларусі.***

На парадку дня было вынесена адно надзённае пытанне: супрацоўніцтва і праблемы ўзаемнага кнігавыдання ў новых умовах. Першае пасяджэнне праходзіла ў Лівадзійскім палацы. Пачаў яго ўступным словам старшыня Вярхоўнай рады Аўтаномнай Рэспублікі Крым Л. Грач. Ён горача вітаў пісьменнікаў трох братніх краін, падкрэсліўшы, наколькі важна іх творчае супрацоўніцтва і сёння і ў будучым, і ўручыў прадстаўнікам пісьменніцкіх арганізацый Ганаровыя граматы Вярхоўнай рады Аўтаномнай Рэспублікі Крым: за ўклад ва ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва паміж братнімі славянскімі народамі.

Два дні пісьменнікі Украіны, Расіі і Беларусі вялі сур'ёзную гаворку аб тым, як наладзіць адносіны паміж творчымі арганізацыямі, знайсці новыя і аднавіць старыя формы супрацоўніцтва. У складзе беларускай арганізацыі былі пісьменнікі: Уладзімір Глушакоў, Анатоль Зэкаў, Яўген Каршукоў, Генадзь Пашкоў, Алесь Пашкевіч, Уладзімір Саламаха. У сваіх выступленнях яны падтрымалі імкненне сваіх украінскіх і рускіх калег да актыўнага супрацоўніцтва, выказалі канкрэтныя прапановы.

У сустрэчы прымалі ўдзел старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў, старшыня Прэзідыума Літаратурнага фонду Расіі Сяргей Лыкошын, старшыня Санкт-Пецярбургскай пісьменніцкай арганізацыі Іван Сабіла, старшыня Міжнароднай арганізацыі пісьменніцкіх саюзаў Цімур Пулатаў, старшыня Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі СП Расіі Уладзімір Гусеў; у склад украінскай дэлегацыі ўваходзілі сакратар саюза, дырэктар Літаратурнага фонду пісьменнікаў Украіны Міхаіл Шаўчэнка, супрацоўніцкі часопісаў "Вітчызна" і "Кіеў" Святлана Йовенка, Пятро Заенка і іншыя; дэлегацыю пісьменнікаў Аўтаномнай Рэспублікі Крым прадстаўлялі старшыня Саюза рускіх, украінскіх і беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Брега Тавриды" член Саюза пісьменнікаў Крыма Анатоль Дамброўскі, член праўлення Саюза пісьменнікаў Крыма Валянціна Фралова і іншыя.

Пасля плённай, зацікаўленай дыскусіі дэлегацыі прыйшлі да згоды і далей працягваць канструктыўныя нарады па творчых, выдавецкіх і эканамічных праблемах і сустракацца ў Крыме штогод. Гэта засведчыла і Камюніке, прынятае адзінагалосна ўдзельнікамі сустрэчы пісьменніцкіх арганізацый Украіны, Расіі і Беларусі.

Сярод шэрагу пытанняў, узнятых на трохбаковай сустрэчы, былі такія: каб кіраўніцтва саюзаў пісьменнікаў і літаратурных фондаў трох краін абмеркавалі праект Дагавора аб супрацоўніцтве, маючы на ўвазе шырокі спектр узаемадзеяння пісьменніцкіх арганізацый у галіне культурнага і інфармацыйнага абмену, кнігавыдавецкай і перакладчыцкай дзейнасці, каардынацыйнага ўпраўлення дамамі творчасці і г.д. У прыватнасці, былі заяўлены і падтрыманы прапановы бакоў аб узаемадзеянні, абмене публікацыямі галоўных выданняў Украіны, Беларусі і Расіі, аб правядзенні сумесных нарад маладых пісьменнікаў трох краін, а таксама найбольш значных літаратурных і гістарычных урачыстасцей з удзелам усіх саюзаў пісьменнікаў.

Усе распрацоўкі і прапановы, якія прагучалі на сустрэчы, будуць уважліва разгледжаны у пісьменніцкіх арганізацыях Расіі, Украіны, Беларусі і Крыма.

У канцы сустрэчы ў Ялце беларуская дэлегацыя пісьменнікаў разам з украінскімі і рускімі сябрамі наведала магілу класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча і ўсклала кветкі.

**Я. ІВАНОЎ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У вёсцы Макашы Нясвіжскага раёна прайшло святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Уладзіміра Жылкі. Да гэтай урачыстасці было прымеркавана адкрыццё мемарыяльнай дошкі і невялікі канцэрт. Саюз беларускіх пісьменнікаў прадстаўлялі госці з Мінска — Валянціна Аксак, Міхась Скобла, Паўлюк Пранузa, Алесь Камоцкі і Змітрок Вішнёў. Казаў шчырыя словы пра беларускага класіка ягоны ўнучаты пляменнік Сяргей Рыжэчыцкі.

СБП правёў у Мінску у траўні два мерапрыемствы, прысвечаныя творчасці Уладзіміра Жылкі, і гэта ўжо трэцяе, у якім актыўны ўдзел бяруць пісьменнікі.

●

У адказ на зварот Саюза пісьменнікаў да кіраўнікоў абласных выканаўчых камітэтаў аб ушанаванні юбілеяў пісьменнікаў-землякоў намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама В. Захарчанка паведаміў, што сёлета культустановы Брэстчыны шырока адзначаць юбілей М. Трафімчука, А. Клышкі, К. Каліны.

У прыватнасці, бібліятэкі Брэсцкага раёна правядуць вечар-партрэт "Зорка К. Каліны", прысвечаны 75-годдзю свята земляка, пройдзе таксама конкурс малюнкаў на творы К. Каліны, абмеркаванне кнігі пісьменніцы "Бабуля Насця, дзед Адам, Петрык і каза Рагуля", будуць афармлены кніжныя выставы і тэматычныя паліцы.

●

У праграме III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, які праходзіў у Гродне, адбылася літаратурная гасцёўня. У ёй прынялі ўдзел беларускія пісьменнікі з Мінска, літаратары з нацыянальных суполак. У прыватнасці са сваімі творамі і перакладамі знаёміл прысутных Міхаіл Ткачоў і Міхаіл Пячонка (рускае таварыства), Багдан Міхалюк і Таццяна Бей (аб'яднанне ўкраінцаў "Ватра"), Георгій Пушкаш з малдаўскага культурна-асветніцкага аб'яднання.

Саюз беларускіх пісьменнікаў на гасцёўні прадстаўлялі Уладзімір Ліпскі, Навум Гальпяровіч і Марыя Шаўчонак.

Было выказана нямала цікавых прапаноў аб узаемасувязях літаратараў. Адна з іх — выданне літаратурнага альманаха, які б знаёміў з творчасцю прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцяў, якія жывуць на Беларусі.

**Н. К.**

# Камітэт па Дзяржпрэміях

***Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны ўказ "Аб зацвярджэнні саставу Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь".***

**Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры**

**Яроменка Мікалай Мікалаевіч** — прэзідэнт асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў", народны артыст СССР (сустаршыня Камітэта, старшыня падкамітэта)

**Смольскі Рычард Баляслававіч** — рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, загадчык аддзела тэатральнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар мастацтвазнаўства (намеснік старшыні падкамітэта)

**Жук Валерый Іванавіч** — вучоны сакратар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства (адказны сакратар падкамітэта)

**Аладаў Вальмен Мікалаевіч** — заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, доктар архітэктуры

**Бірукова Марыя Міхайлаўна** — намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама

**Баравікова Раіса Андрэеўна** — паэт, галоўны рэдактар часопіса "Алеся"

**Буралкін Генадзь Васільевіч** — старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў"

**Гайда Наталля Віктараўна** — салістка Дзяржаўнага музычнага тэатра Рэспублікі Беларусь, народная артыстка Беларусі

**Герлаван Барыс Федасеевіч** — галоўны мастак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны мастак Беларусі

**Гасцюхін Уладзімір Васільевіч** — акцёр Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", народны артыст Беларусі

**Грамыка Віктар Аляксандравіч** — народны мастак Беларусі, прафесар

**Гуляка Леанід Паўлавіч** — начальнік упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі апарату Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

**Давідовіч Лілія Іванаўна** — артыстка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народная артыстка Беларусі

**Дрынеўскі Міхаіл Паўлавіч** — старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз музычных дзеячаў", мастацкі кіраўнік дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча, народны артыст Беларусі, прафесар

**Дудкевіч Валянцін Уладзіміравіч** — дырэктар — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі

**Екель Леанід Сямёнавіч** — старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз журналістаў"

**Елізар'еў Валянцін Мікалаевіч** — дырэктар — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР

**Захлеўны Леанід Канстанцінавіч** — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага аб'яднання "Белканцэрт", народны артыст Беларусі

ВІНШУЕМ!

# Брава, Дудараў!

І Шэкспір, і Мальер некалі гралі ў сваіх п'есах. Нечакана традыцыю славутых творцаў падхапіў беларускі драматург Аляксей Дудараў: 6 чэрвеня, акурат у свой юбілей, ён выйшаў на сцэну ТЮГа, каб сыграць у спектаклі "Палачанка".

Дударава гледачы віталі апладысментамі. Юбіляр трымаўся шляхетна, ганарліва, старанна стваараючы вобраз Дабрыні, хітрага дзядзькі князя Уладзіміра. Праўда, было бачна, што А. Дудараў крышачку хвалюецца. Аднак кожны раз, калі Дабрыня з'яўляўся на сцэне, хацелася крыкнуць: "Брава, Дудараў!"

**В. Б.**



*Фота М. ПРУПАСА*

ГАСТРОЛІ

# "Набука" — на "біс"

## 10 ЧЭРВЕНЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ОПЕРЫ БЕЛАРУСІ ЕДЗЕ Ў ФЕСТЫВАЛЬНАЕ ТУРНЭ

Падчас леташняга фестывалю опернага мастацтва ў Германіі наш тэатр з поспехам паказаў сваю новую маштабную працу — "Набука" Д. Вердзі. Музычна-тэатральнае відовішча разгорталася пад адкрытым небам, на вялікім саборным пляцы старадаўняга горада Шпаера, у амаль што "натурных" дэкарацыях. Але розгалас мела не толькі эфектнае вонкавае ўвасабленне твора. Нямецкая прэса высока ацаніла і аркестр, і салістаў, і хор беларускага тэатра, выклікаўшы да яго цікавасць па ўсёй Германіі. Таму сёлета наша оперная трупа атрымала запрашэнне адразу на два фестывалі, што ладкуюцца ў гэтай краіне ў чэрвені. А затым, у разгар лета, адбудзецца ўжо трэцяя вандроўка на фестываль "Classik Openair" у швейцарскі горад Салатурн.

Увесь год рыхтаваліся артысты да гэтай падзеі. Пад кіраўніцтвам імпрэсарыё і рэжысёра з Германіі Ф. Прывітэры ўдасканальваліся спектаклі фестывальнага рэпертуару: "Кармэн", "Баль-маскарад", "Рыгалета"... І, вядома ж, "Набука", які зноў уключаны і ў германскі, і ў швейцарскі праекты. Выкананне гэтай гістарычнай оперы ў старажытнай крэпасці Кірнбург мае быць асабліва ўражлівым.

Пры канцы сезона трупа паказала і дзве новыя працы: "Дон Жуан" В. А. Моцарта і "Турандот" Д. Пучыні. Як вядома, канцэртная версія апошняй оперы славутага італьянца завяршыла тэатральны сезон у мінулую суботу. Гэта быў яскравы музычны вечар. Непараўнальная па сваёй маляўнічасці, гарманічнай, тэмбравай, меладыйнай раскошы "Турандот" паўстала ў інтэрпрэтацыі сусветна вядомага аўстрыйскага дырыжора Р. Вайкерта (у яго творчай біяграфіі музычна-тэатральныя сцэны Бонна, Франкфурта, Зальцбурга, Берліна, Мюнхена, Нью-Йорка, Сан-Францыска, Вены, Мілана і г. д.). У суладдзі з маэстра стварылі драматычныя і прыгожыя свет вядомай казкі салісты Т. Глаголева, В. Курбацкая, В. Раеўскі, М. Майсеенка, Я. Нэлепа, Г. Чэпікаў, музыканты аркестра, у тым ліку — сцэнічнага, хор...

Пад кіраўніцтвам Р. Вайкерта беларуская артысты будуць выступаць у Швейцарыі. Таму шаноўны госць, завітаўшы ў Мінск, правёў напружаныя рэпетыцыі ўсяго гастрольнага рэпертуару: "Кармэн", "Травіяты", "Севільскага цырульніка", "Дон Жуана"...

Нацыянальная опера завяршыла сезон, але жыццё ў Вялікім тэатры працягваецца. І не толькі таму, што тут ідуць спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета, якія, дарэчы, рыхтуецца паказаць прэм'еру "Макбета" В. Кузняцова. Нагадвае пра сябе і мастацтва бельканта: салісты оперы, якія не ўдзельнічаюць у фестывальным праекце і засталіся ў Мінску, падрыхтавалі два вечары старадаўняга раманса. А на 29 чэрвеня абвешчаны паказ "Фаўста" А. Радзівіла.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: операі "Набука" наш тэатр адкрые фестываль у Германіі 13 чэрвеня.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

АБСЯГІ

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Пра Беларусь дбаюць у Польшчы

На пятай міжнароднай навуковай канферэнцыі "Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае моваазнаўства, літаратуразнаўства і культуралогія", якая прайшла ў мясцовым дзяржуніверсітэце, польская дэлегацыя аказалася самай прадстаўнічай (14 навукоўцаў). З цікавым дакладам "Беларусь у фалькларазнаўчых працах польскага даследчыка Оскара Кольберга" выступіў загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Дарэчы, ён адзначыў, што ў Польшчы працуе пяць кафедраў беларускай філалогіі — па дзве яшчэ ў Любліне і Беластоку. Чаму ж у Расіі, хаця б у памежных з Беларуссю абласцях, не існуе ў навучальных установах аніводнай адпаведнай кафедры? А на Беларусі без рускай філалогіі не абыходзіцца ні адна ВНУ...

На канферэнцыі працавалі секцыі па праблемах супастаўляльнай лексікалогіі і фразеалогіі, намінацыі і анамастыкі, сацыялінгвістыкі і лінгвістычнага тэксту, методыкі выкладання мовы і літаратуры. У Віцебск прыехалі лінгвісты і літаратуразнаўцы з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны, а таксама Літвы, Украіны, нават Ірландыі.

## "Браслаўскія чытанні"

У чарговай навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія чытанні" прынялі ўдзел навукоўцы не толькі з Беларусі, але і з Літвы, Расіі, Польшчы, Латвіі. Дырэктар Цэнтра напалеонаўскіх даследаванняў Фернан Бакур прыслаў прывітанне і даклад, прысвечаны нявыдадзеным лістам неапалітанскага віцэ-караля Мюрата да каханай паненкі з тутэйшых Бяльмонтаў. Адзін з арганізатараў канферэнцыі, кіраўнік Браслаўскага краязнаўчага таварыства імя О. Хедэмана, навуковы супрацоўнік гісторыка-краязнаўчага музея Кастусь Шыдлоўскі лічыць, што "Браслаўскія чытанні" займелі сваіх заўсёднікаў — апантаных даследчыкаў нашай даўніны, якія зрабілі чытанні адметнай падзеяй у жыцці раёна.

## "Белая амфара" ўздымае прэстыж

Па традыцыі Віцебск гасцінна прымаў мадэльераў-дызайнераў, мастакоў, прамыслоўцаў, манекеншчыц на адкрыты конкурс "Белая амфара", які сёлета ўжо выйшаў за рамкі рэспубліканскага фестывалю. У конкурсным паказе мадэляў прынялі ўдзел больш за 120 дызайнераў. На думку кіраўнікоў прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, прамысловае мадэліраванне стала больш успрымальным да эксперыментальных ідэй і нават апярэджвае фантазіі вольных мастакоў. Галоўны мастак-мадэльер расійскага канцэрна "Панінтэр" У. Зубец, які ўзначальваў журы, назваў "Белую амфару" з'явай мастацтва. Разам з тым знаўцы канстатавалі: беларуская мода дэманструе вызначаную адарванасць ад тэндэнцый сусветнай моды.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Развітанне з артыстам

29 траўня на 95-ым годзе жыцця памёр народны артыст РСФСР, былы акцёр Магілёўскага аблдрамтэатра Мікалай Радыёнаў. На магілёўскай сцэне Мікалай Ільіч сыграў дзесяткі роляў. Спектаклі "Атэла", "Замак Броўдзі", "Іспанцы", "Разлом", у якіх артыст браў удзел, старыя тэатралы памятаюць і да сённяшняга часу. У мінулы аўторак развітацца з Мікалаем Радыёнавым прыйшлі ў драматычны тэатр усе тыя, хто любіў і шанаваў артыста. Пахавалі Мікалая Ільіча на Машакоўскіх могілках у Магілёве.

## Турэцкае кіно

У кінатэатрах "Чырвоная зорка" і "Космас" пройдуць фільмы, створаныя турэцкімі кінематаграфістамі ў 90-ыя гады. Іх прывязе ў Магілёў Надзвычайны і Упаўнаважаны Пасол Рэспублікі Турцыя ў Беларусі Шуйле Сойсал. Яна і адкрые фестываль турэцкага кіно.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## "Добрыя словы кажыце..."

Больш за 30 удзельнікаў літаратурнага і музычнага конкурсу, прысвечанага 60-годдзю вобласці, атрымаюць у якасці галоўных прызоў зборнік сваіх лепшых твораў. Кніжка пад назвай "Добрыя словы кажыце..." фінансавалася абласным грамадска-культурным Цэнтрам, а выпушчана выдавецтвам С. Лаўрова. У ёй змешчаны вершы і байкі, апавяданні і казкі, песенныя тэксты і нотныя запісы да іх. Як і належыць, найбольш старонак аддадзена творам пераможцаў конкурсу — паэта Андрэя Мазько і празаіка Анатоля Крэйдзіча з Іванава, паэткі з Бярозы Валянціны Осіпавай, самадзейнага кампазітара Валерыя Марцінкевіча з Ганцавіч і іншых. Неўзабаве ў Брэсце адбудзецца прэзентацыя гэтай цікавай кніжкі, якая для культработнікаў вобласці з'явіцца добрым рэпертуарным дапаможнікам.

## Уся даўніна — у краязнаўчым музеі

З Камянецкай вежаю, Косаўскім замкам, Заказельскай капліцай-пахавальняй роду Ажэшкаў, Ястрамбельскім домам-сядзібаю ды іншымі архітэктурнымі помнікамі Брэстчыны жыхары і госці абласнога цэнтра зараз могуць пазнаёміцца... у краязнаўчым музеі. Аб'ёмныя копіі гістарычных пабудоў выкананы і падараваны музею студэнтамі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта (да нядаўняга часу — політэхнічны інстытут). Зараз працуе выстава гэтых дасканалых твораў-макетаў.

Адначасова тут адкрылася і выстава графічных прац маладых брэсцкіх мастакоў Васіля Бурскага і Дзмітрыя Гронскага, якія таксама шмат увагі надаюць архітэктурным і гістарычным пейзажам і замалёўкам.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Дзве прэм'еры

Дзве прэм'еры — балет "Манна нябесная, або Чаканне кахання" і новыя мініяцюры — прапанавала гледачу група сучаснай харэаграфіі "ТАД", якая створана пры абласной філармоніі. Прэм'еры на працягу двух вечароў прайшлі з вялікім поспехам. І ўвогуле група "ТАД" — адзін з любімых творчых калектываў у горадзе над Нёманам. У 93-ім яе стварыў Дзмітрый Куракулаў — выпускнік Чэлябінскай вучэльні мастацтваў.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*МІНШЧЫНА...*

## Пачынаецца "Ракуцёўскае лета"

11 чэрвеня а 12-ай гадзіне ў філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына" (вёска Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна) адбудзецца традыцыйнае свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета — 2000". Запрашаюцца ўсе прыхільнікі паэзіі Максіма Багдановіча, аматары прыгожага беларускага пісьменства. У праграме бяруць удзел вядомыя беларускія барды, паэты, празаікі, фальклорныя калектывы, будзе наладжаны кніжны гандаль.

**НАШ КАР.**

**Кісель Рыгор Леанідавіч** — старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі

**Картэс Сяргей Альбертавіч** — кампазітар, дырэктар — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі

**Лучанок Ігар Міхайлавіч** — старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз кампазітараў", народны артыст СССР

**Марухін Юрый Аляксандравіч** — старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз кінематаграфістаў", кінарэжысёр Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

**Міско Іван Якімавіч** — скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

**Маскалевіч Леанард Віктаравіч** — кіраўнік творчай майстэрні, заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі архітэктуры

**Мулявін Уладзімір Георгіевіч** — кампазітар, дырэктар — мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры", народны артыст СССР

**Наркевіч Уладзімір Браніслававіч** — галоўны рэдактар газеты "Звязда"

**Навуменка Іван Якаўлевіч** — народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Нічкасаў Анатоль Іванавіч** — намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва

**Алоўнікаў Ігар Уладзіміравіч** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі

**Пашкоў Генадзь Пятровіч** — пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі

**Падгайны Міхаіл Васільевіч** — старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку

**Паплаўскі Георгій Георгіевіч** — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў, народны мастак Беларусі

**Пташнікаў Іван Мікалаевіч** — пісьменнік

**Пташук Міхаіл Мікалаевіч** — кінарэжысёр Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", народны артыст Беларусі

**Савіцкі Міхаіл Андрэевіч** — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў, народны мастак СССР

**Саламаха Аляксандр Пятровіч** — начальнік галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

**Сасноўскі Аляксандр Уладзіміравіч** — міністр культуры

**Сцяпанаў Анатоль Валянцінавіч** — прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз архітэктараў"

**Сурскі Дзмітрый Алегавіч** — прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз дызайнераў"

**Тоўсцік Уладзімір Антонавіч** — мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

**Шавялевіч Віктар Васільевіч** — дырэктар Рэспубліканскага вытворча-творчага аб'яднання "Беларускі кінавідэацэнтр"

**Шамякін Іван Пятровіч** — народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Фінберг Міхаіл Якаўлевіч** — дырэктар — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі

**Янкоўскі Расціслаў Іванавіч** — артыст Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, народны артыст СССР

**Ярмоленка Анатоль Іванавіч** — дырэктар — мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Студыя "Сябры" Дзяржаўнага аб'яднання "Белканцэрт", народны артыст Беларусі

## За плённае супрацоўніцтва

**Аляксея Слесарэнку добра ведаюць на Беларусі як пісьменніка і майстра мастацкага слова, адданага прапагандыста нацыянальнай літаратуры. Тыя, хто чытаў яго кнігі, знаўцы гісторыі кіно ведаюць і іншую акалічнасць біяграфіі Аляксея Слесарэнкі — некалі ён здымаўся, як акцёр, у фільмах самых славутых рэжысёраў, такіх, як С. Эйзенштэйн, А. Даўжэнка... Была ў біяграфіі пісьменніка і праца на тэатральных падмостках, і ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, ва ўзяцці рэйхстага. Тысячы выступленняў з чытаннем твораў беларускіх пісьменнікаў на рахунку А. Слесарэнкі — бадай, няма такога кутка на Беларусі, дзе б ён не пабываў з прапагандай роднай літаратуры. Але асобу і творчасць А. Слесарэнкі ведаюць не толькі на Бацькаўшчыне. Даўнія творчыя сувязі ў пісьменніка з суседняй Украінай. Там выходзілі яго кнігі і артыкулы ў перакладзе на ўкраінскую мову, адбываліся творчыя сустрэчы. Нядаўна з Украіны прыйшла прыемная навіна: Аляксей Слесарэнка ўзнагароджаны Ганаровай граматай Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, за вялікі ўклад у развіццё ўкраінска-беларускіх літаратурных сувязей. Грамату падпісаў старшыня Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Юры Мушкецік.**

**Віншуем Аляксея Аляксеевіча з узнагародай і жадаем далейшага творчага плёну.**

**Н. К.**

## Пухавіцкая праграма

**У вёсцы Чырвоны Кастрычнік збіраюцца да 100-годдзя краязнаўца Міколы Каспяровіча адкрыць мемарыяльную дошку. І адразу ў памяці ўсплылі ідэнтычныя падзеі апошніх двух-трох гадоў. У Пухавіцкім раёне, дзе "культурны цэх" райвыканкама ўзначальвае Яўген Сушко, ажыццяўляецца сапраўдная літаратурна-мемарыяльная праграма. З году ў год на пухавіцкай зямлі адчыняюцца памятныя дошкі. У 1997-м (да 115-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа) — у Тальцы, на будынку вакзала чыгуначнай станцыі. Паэт на працягу многіх гадоў летаваў у пухавіцкіх паселішчах, большасць — у Тальцы. Пасля адчынілі дошкі ў знак розных гадавін з дня нараджэння паэтаў Алеся Бачылы і Аркадзя Моркаўкі (у Зазерцы), Уладзіміра Хадыкі (у Васільках). Абавязковыя ўдзельнікі адкрыцця дошак — кіраўнікі раёна: старшыня райвыканкама, яго намеснікі, старшыня райсавета. А таксама — старшыні сельсаветаў, кіраўнікі мясцовых прадпрыемстваў. Другая адметнасць: адкрыццё дошак суправаджаюць мерапрыемствы ў мясцовых школах. Рыхтуюцца літаратурна-мастацкія кампазіцыі, вучні чытаюць вершы. І на адкрыццё дошкі, і ў школу заўжды прыходзяць не толькі родзічы літаратараў, але і пісьменнікі. У Тальцы былі Генрых Далідовіч, Васіль Шырко. У Зазерцы — Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў. У Васільках (там размяшчаецца Ціцвінская базавая школа) — Навум Гальпяровіч, Уладзімір Саламаха.**

**Арганізацыйным эпіцэнтрам усяе гэтай работы, поруч з аддзелам культуры, выступае Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей. У першую чаргу — дырэктар Аляксандр Пpановіч.**

**З тых, хто ўжо пайшоў з жыцця, на Пухаўшчыне нарадзіліся паэты і празаікі Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Аляксандр Ельскі, Пятро Рунец, Сымон Хурсік, Макар Паслядовіч, Генадзь Кляўко, Уладзімір Дудзіцкі, Рыгор Папараць, Захар Бірала, Алесь Макарэвіч, Васіль Гарбацэвіч... Безумоўна, памяць кожнага з іх варта ўшанавання мемарыяльнай дошкай. Над гэтым і рупіцца пухаўчане.**

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

## Ён будзе прылятаць...

**У дзяцінстве мы не жадаем станавіцца дарослымі. Але пралятаюць гады, мяняюцца абставіны, і нашы душы ўсё радзей і радзей лунаюць у незвычайным і чыстым свеце дзяцінства.**

**Менавіта гэты тонкі настрой удала здолелі перадаць пастаноўшчыкі спектакля "Пітэр Пэн" паводле п'есы Джымі Бары. Прэм'ера спектакля адбылася нядаўна ў Берасцейскім тэатры лялек. А падрыхтавалі новую работу харкаўскія сябры тэатра — рэжысёр-пастаноўшчык Леанід Папоў, мастак-пастаноўшчык Васіль Выхадцэўскі, кампазітар Юлія Грыцун. Надзвычай зладжана і гарманічна працуюць на сцэне акторы тэатра (у спектаклі занята ўся трупа). І гэта той самы выпадак, калі некага асобна з артыстаў вылучыць немагчыма — без сапраўднага акторскага ансамбля не было б у тэатры і сапраўднага "Пітэра Пэна".**

**Ігар СІДАРУК**

ЮБІЛЕЙ

# Каб перадаць нашчадкам

### ДА САРАКАГОДДЗЯ З ДНЯ ЎТВАРЭННЯ БДАМЛІМ



9 чэрвеня 1960 г. Савет Міністраў БССР выдаў пастанову за N 323 аб стварэнні Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва ў мэтах канцэнтрацыі і лепшага захоўвання дакументаў літаратурных, тэатральных, музычных і мастацкіх арганізацый, выдавецтваў і іншых устаноў, што займаюцца пытаннямі літаратуры і мастацтва.

Першым фондам, які паступіў у архіў, быў асабісты фонд вядомага беларускага паэта, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Міхася Машары. Пасля былі прыняты дакументы Міхася Васілька, Міколы Засіма, Алеся Жаўрука, Якава Брайцава.

У 1961 г. з Масквы з Цэнтральнага архіва літаратуры і мастацтва СССР былі перададзены дакументы Я. Купалы — 29 адзінак захавання за 1908—1945 гг. і Я. Коласа — 350 адзінак захавання за 1902—1956 гг. — гэта рукапісы твораў, перапіска, фатаграфіі.

Так быў пакладзены пачатак камплектаванню архіва фондамі дзеячаў беларускай культуры, а далей — пошукі, перамовы, знаходкі, навуковая апрацоўка, публікацыі.

У студзені 1976 г. архіў быў пераўтвораны ў архіў-музей і атрымаў новую назву — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. Да асноўных задач архіва дадалася новая — ствараць музейныя экспазіцыі з тых дакументаў і экспанатаў, якія знаходзяцца ў нас на захоўванні. Але стварыць музейную экспазіцыю архіву-музею не давялося з-за адсутнасці памяшкання, якога мы не маем і зараз. Таму гэтую функцыю даводзіцца ажыццяўляць шляхам правядзення выставак па-за межамі архіва.

На сённяшні дзень з тых матэрыялаў, якія назапашаны ў сховішчы нашага архіва-музея, можна стварыць шыкоўны музей. Архівамі М. Танка, А. Куляшова, Я. Брыля, С. Грахоўскага, Л. Александроўскай, Я. Ціцкага, М. Забэйды-Суміцкага і многіх-многіх іншых па праву можа ганарыцца любы архіў свету.

Рознымі шляхамі трапляюць асабістыя архівы да нас у сховішча. Актыўную дапамогу ў пошуках дакументаў аказваюць творчая і навуковая грамадскасць.

Шлях кожнага асабістага архіва — гэта асобная гісторыя, не менш цікавая, чым самі дакументы.

У 1996 г. у архіў звярнулася музыказнаўца з Магілёва В. Марозава, дарэчы, наша пастаянная даследчыца, з просьбай ад дачкі вядомага ў свой час музыказнаўцы Ю. Дрэйзіна, забраць яго архіў на пастаяннае захоўванне. З Верай Юльянаўнай вяліся перамовы і раней, але ўсё ніяк яна не пагаджалася, а тут сама прапанавала, як потым сказала — прыйшоў час. Больш за пяцьдзесят гадоў беражліва захоўвала яна архіў бацькі, як самае дарагое і самае каштоўнае.

Да 100-годдзя з дня нараджэння трапіў да нас архіў Адама Бабарэкі, пра гісторыю захавання якога можна напісаць кнігу. Усё напісанае Адамам Антонавічам прайшло праз рэпрэсіі, вайну, дзесяткі год пасля вайны і захавалася ў поўным складзе дзякуючы мужнасці яго жонкі Ганны Іванаўны і дачкі Алесі Адамаўны.

Такія гісторыі можна расказваць бясконца, лёс архіва гэта як і лёс чалавека. І, можа, калі-небудзь з'явіцца кніга пра лёс архіваў і будзе яна не менш цікавая, чым манаграфія пра таго ці іншага творцу, напісаная па архіўных дакументах, а такія манаграфіі можна пісаць амаль па ўсіх асабістых архівах.

Пошук дакументаў вядзецца і за межамі Беларусі, нават зараз, калі з-за матэрыяльных цяжкасцяў, амаль немагчыма выехаць у камандзіроўку хаця б у бліжняе замежжа, трапляюць дакументы ў наша сховішча і з-за мяжы. Так, з Якуцка наш сябра Алесь Баркоўскі прывёз архіў паэта Івана Ласкова, з Масквы прывезены архівы А. Бабарэкі і А. Каўкі, з Польшчы — Сакрата Яновіча, з ЗША — М. Сяднёва і частка архіва Н. Арсенневай, раней, з Чэхаславакіі — М. Забэйды-Суміцкага. Усё гэта дабыта дзякуючы нашым сябрам.

У выніку сумесных намаганняў супрацоўнікаў архіва і яго сяброў на сённяшні дзень у архіве-музеі захоўваецца 430 фондаў, з іх 367 — асабістыя фонды дзеячаў літаратуры і мастацтва. Гэта больш як 80 тысяч спраў, якія ўтрымліваюць разнастайную рэтраспектыўную інфармацыю па гісторыі культуры беларускага народа.

Храналагічныя рамкі ахопліваюць перыяд з другой паловы XIX стагоддзя і да нашага часу. Архіў-музей захоўвае унікальныя дакументы рэдакцыі першай беларускай газеты "Наша Ніва", матэрыялы рэдакцый іншых перыядычных выданняў, дакументы пра дзейнасць беларускіх арганізацый у Вільні, Пецярбургу, Празе, Латвіі. Усё гэта знаходзілася ў фондах ліквідаванага ў 1946 годзе Віленскага беларускага музея братоў Луцкевічаў.

Вялікую цікавасць уяўляюць дакументы аб нацыянальным будаўніцтве ў Савецкай Беларусі ў 20—30-я гады. Яны знаходзяцца ў фондзе Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк".

Гісторыя беларускай літаратуры адлюстравана таксама і ў фондах Саюза пісьменнікаў, рэдакцый часопісаў "Маладосць", "Нёман", "Полымя", газеты "Літаратура і мастацтва", выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Юнацтва" і інш.

Тэатральнае мастацтва прадстаўлена асабістымі фондамі артыстаў і рэжысёраў сталічных і абласных тэатраў, а таксама артыстаў беларускай оперы і балета. Гісторыкі беларускай культуры звернуць увагу на фонды кампазітараў, дзеячаў выяўленчага мастацтва і кінематографа. На сучасным этапе калектыў плённа працуе з новымі паступленнямі, шмат публікуе цікавага матэрыялу па архіўных дакументах, праводзіць навуковыя канферэнцыі і беражліва захоўвае назапашанае.

**Ганна ЖУКАВА**

ПОШТА

# Мы самі ранім мову

Прайдзіце па вуліцах любога горада, хай сабе Мінска ці то Магілёва, Гродна, Гомеля — любога. Скрозь замежныя назвы, розныя там "офісы" і "шопы". З дальняй вёскі стары селянін прачытае, то невядома, што падумае...

У апошні час паўсюдна (на радыё, на тэлебачанні, у газетах) ледзь не кожны карэспандэнт са скуры лезе, каб у кароценькай інфармацыі ўціснуць замежнае слова "рэгіён".

Яно ёсць у беларускім слоўніку, але ж там прыкладам кшталту "рэгіянальнае пагадненне". Скажыце, калі ласка, якія рэгіянальныя пагадненні заключае Лоеўскі, Мядзельскі ці Бялыніцкі райвыканкамы? А ў нас што ні раён, то рэгіён. Словам, рэгіён у значэнні раён. Іншыя журналісты ўжо і ў раёне знаходзяць рэгіёны — ці то гэта сельсаветы, ці, можа, урочышчы безназменныя!

Аднаго разу вечарам у "Панараме" прагучала, што наш прэзідэнт у Таджыкістане наведаў "шэраг рэгіёнаў". Што меў каментатар на ўвазе: раёны ці вобласці? Глядзеў я геаграфічную карту — рэгіёнаў у Таджыкістане не знайшоў.

Раней рэгіёны былі пераважна ў Афрыцы (яны і зараз ёсць). Можа, яшчэ дзе ў Амерыцы. Словам, на вялікіх тэрыторыях. Скажам, па Расійскім тэлебачанні перадаюць: "Заходні рэгіён". Тут жа сіноптык паказвае на карце Малдову, Заходнюю Украіну, Беларусь, Прыбалтыку — вось гэта і ёсць Заходні рэгіён (для Расіі). Рэгіёнам, калі я вучыў геаграфію ў школе, была Сярэдняя Азія. У нашай Беларусі рэгіёнамі (ведама, з нацяжкай) можна назваць хіба толькі Палессе, Падзвінне, Прыдняпроўе, Прынямонне.

Даволі часта журналісты (няволытныя, а часам і дасведчаныя) карыстаюцца набіўшым аскоміну словазлучэннем "паэты і пісьменнікі": "адбылася сустрэча з паэтамі і пісьменнікамі" "да нас прыехалі паэты і пісьменнікі". Думаю, няўжо паэт не пісьменнік? Вучням сярэдняй школы настаўнікі тлумачаць, што ёсць жанры літаратуры, а таму ёсць паэты, ёсць празаікі, ёсць драматургі, ёсць крытыкі, ёсць публіцысты, а ўсе разам яны, як адно цэлае — пісьменнікі. Словазлучэнне "паэты і пісьменнікі" паўтараецца настолькі часта (аднаго дня па радыё за паўтары гадзіны прагучала ажно тры разы), што стала нормай. А яшчэ ў нас вельмі любяць выраз "беларускія пісьменнікі". А хіба ж яшчэ, дазвольце спытаць? Выходзіць, мы самі ранім матчыну мову. Мо пара ў Мінску адкрыць лікбез для такіх журналістаў?

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

*г. Магілёў*

# Сустрэча прынесла радасць

Здараюцца ж шчаслівыя выпадковасці! Па дарозе, едучы на электрычцы з Маладзечна на Мінск, набыў "ЛіМ" за 5 траўня. Спярша, як і заўсёды, акінуў беглым позіркам усе старонкі, каб потым спыніцца на асобных, цікавых перш-наперш для мяне, публікацыях. Прачытаў "Кола дзён" (з мэтай сумеснасці свае "галоўныя" падзеі тыдня і лімаўскія), развагі ўшанаванага Івана Шамякіна, афарызмы Георгія Марчука, артыкулы мастацтвазнаўчага кшталту. Потым перайшоў на вершы.

Шчыра прызнаюся: нізка вершаў Сяргея Рабчуна па-добраму ўразіла. Адразу кінулася ў вочы уніформа (міліцэйская?), і зачапілася надзея на сустрэчу з "міліцэйскай" тэматыкай, якой так не стае для папаўнення разнастайнасці палосак беларускай паэтычнай нівы. Прыцягнула ўвагу месца, адкуль дасланы вершы, — Плешчаніцы, Лагойшчына, край, апяяны Нілам Гілевічам.

Надзеі на "міліцэйскія" вершы не спраўдзіліся, але адбылася сустрэча з паэзіяй, таленавітай, грунтоўнай і не па-маладому сталай, адбылася першая сустрэча Паэта са сваім чытачом. Некаторыя даравальныя хібы не засцямілі станоўчага ў вершах. Наваt ужо даволі зацяганыя вобразы "ружовых сноў" і "блакітнай мары", спалучаныя разам у першым вершы нізкі, успыхваюць новымі адценнямі, нагадваючы зноў і зноў пра невыраўшальную спрэчку "цябе" і "мяне".

Сумная цяпершчына, неўсталяванасць жыцця на Беларусі і ў свеце, як парастак пад непразрыстай абалонкай, усё ж прагляваюцца ў вершах маладога паэта. "Шчыльны насціл шэрага неба" і проста "шэрае неба" ў невялікай падборцы, прынамсі, не выпадковасць. Толькі "сапраўдныя вочы", "сапраўднае сэрца" патрапяць змагчы штодзённы пыл недарэчнасцяў. А што ж з вершамі тут, сярод бязладдзя? А яны, "быццам белыя птахі ў шэрае неба з **няволі** ляцяць" (падкрэслена мною. — **П. Ж.**). Вобраз "шэрага неба", дзе таксама, відавочна, няўтульна вершам, набывае нейкую злавесную афарбоўку. Яны хоць "і не трымцяць ад завей", аднак не могуць знайсці паратунку і сярод "шэрага неба" сённяшняга грамадства, сярод натоўпу, які не мае патрэбу ў высокім мастацтве. Куды ж у такім разе падзецца Музам?

Для мяне сустрэча з вершамі Сяргея Рабчуна — сапраўднае адкрыццё, адкрыццё новага імя ў Паэзіі. У будучым урокі па сучаснай беларускай паэзіі абавязкова будуць праведзены з выкарыстаннем гэтых вершаў — вершаў маладога хлопца, ледзь не равесніка маіх навучэнцаў. Зычым Сяргею плённага творчага шляху.

**П. ЖАЎНЯРОВІЧ,**
**выкладчык Мінскага ВПВ электронікі**

Змітрок МАРОЗАЎ

# Адценні

Калі той ці іншы пісьменнік распачынае гаворку пра сучасную вёску і яе праблемы, у мяне міжволі ствараецца ўражанне, што аб'ект разваг для яго — нібыта як след не абжыты мацярык. Размовы ў асноўным вядуцца ў мінулым часе: у 30—50-х гадах. Сучасны пісьменнік, за вельмі рэдкім выключэннем, жыве ўспамінамі дзяцінства, а сённяшняга жыцця вяскоўцаў, на жаль, амаль не ведае.

●

Сёння практычна кожны калгас нагадвае стомленага, спрацаванага чалавека. Яму б разагнуць спіну, уздыхнуць вальней, а ад яго зноў патрабуюць нябачаных дасюль эканамічных поспехаў.

Возьмем, да прыкладу, адзін са стратэгічных накірункаў эканамічнага развіцця сельскай гаспадаркі — перавод калгасаў і саўгасаў на самафінансаванне.

Цудоўная, на першы погляд, ідэя, рэалізацыя якой дазволіла б за лічаныя гады пераважнай большасці гаспадарак атрымаць поўную гаспадарчую самастойнасць.

Ідэя ідэяй, а жыццё заўсёды ўносіць свае папраўкі, якія часта з'яўляюцца вызначальнымі ў лёсе вытворцы.

Пераход на самафінансаванне падштурхнуў тых, хто жыве і корміцца з калгаснага, не на памяншэнне цэн і павышэнне эфектыўнасці абслугоўвання сельскагаспадарчай вытворчасці. Наадварот, розныя абслугоўваючыя арганізацыі і канторы пачалі механічна накручваць цэны, тарыфы і нацэнкі на свае паслугі.

У выніку за апошнія гады вёска трапіла яшчэ ў большую эканамічную залежнасць ад сваіх "памагатых".

●

У Рымскай імперыі было аж восемдзесят тры віды розных падаткаў. Існаваў нават падатак на соль. Што з гэтага атрымалася, добра вядома. Сяляне адракліся ад зямлі і пабеглі ў гарады. Магутная Рымская імперыя развалілася і загінула.

І ў наш час эканоміка калгасаў і саўгасаў, як кажуць, трашчыць па ўсіх швах. Тым не менш вынаходлівы чыноўнік прыдумвае для гаспадарак усё новыя і новыя падаткі. Праўду людзі кажуць, што гісторыя вучыць таму, што нічому не вучыць.

●

Нашы прашчуры шмат тысячагоддзяў таму былі адзіным цэлым арганізмам свабй маці Прыроды, адчувалі яе намнога лепш. Яны не здзекаваліся з раслін, звяроў, рыб і птушак, а спажывалі роўна столькі, колькі неабходна пячорнаму чалавеку для свайго існавання.

Мо і нам не трэба труціць зямлю, ваду і паветра, каб атрымаць мільёны тон хлеба, мяса і малака?

●

...Дзядзька Міхась даглядае саўгасных пчол. Мінулай восенню было ў ягонай гаспадарцы паўсотні пчаліных дамкоў. Але з восені брыгадзір загадаў узараць канюшынішча за пасекай. Дзядзька злуецца: "Нарабіў мне клопату, не параіўся. Звычайна пчала ледзь не да самага снегу ў траве качалася. А так рана пайшла на зімоўку. Таму, відаць, пятнаццаць сем'яў за зімку ляснула. Не хапіла корму".

●

Бабуля Ганна сабралася паміраць. У невялікі клунак паклала ўсё неабходнае, каб не сорамна было з'явіцца перад вачыма сваіх продкаў. Не забылася нават пра ручнікі, на якіх труну апускаюць у магілу.

Кожны раз падчас маіх рэдкіх наездаў пагасцін да бабулі, перад тым як развітацца са мной, яна адмыкала дзверы шафы і, паказваючы пальцам на клунак, строга казала: "Памятай, дарагі саколе. Перад тым як класціся на божую пасцель, нахай мяне апрануць па-людску, каб не сорамна было".

Памерла бабуля на Пакроў. Было ёй восемдзесят шэсць гадоў.

Просьба яе была выканана. А я атрымаў, бадай, самы галоўны ўрок сялянскай мудрасці: як трэба рыхтавацца да сустрэчы з продкамі.

●

Цешча да зяця: "У мяне, зяцёк, гной бярэцца, як яешня".

А ў яго спіна ўзмакрэла, як у лазні, жылы ад натугі лопаюцца, аж цаўё віл рыпіць у руках.

●

Маці: "Жыццё кароткае, як восеньскі дзень. Не паспееш як след парадавацца сонейку, а ўжо бярэцца на змяркание".

●

У чарговы раз скарачаюць штаты. Ці будзе якая-небудзь карысць — ніхто дакладна не ведае. Лічбы аб скарачэнні штатаў спушчаны "зверху". Вось і стрыгуць усіх, як тыя дэкаратыўныя дрэвы. Толькі ж людзі — не дрэвы.

Увогуле агонія кожнай адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы вызначаецца рэзкім павелічэннем колькасці розных кантралюючых кантор, нарастаннем валу дырэктыў, цыркуляраў і папер. У выніку: "наверсе" штучна ствараецца выгляд бурнай работы, а "ўнізе" — аганізуе вытворчасць, а разам з ёй і эканоміка.

●

Надпіс на фасадзе будынка кангрэса ЗША: "Сельская гаспадарка была, ёсць і будзе асновай прамысловасці і гандлю".

Відаць, не пашкодзіла б і нашаму парламенту зрабіць такі надпіс у зале пасяджэнняў, каб шаноўныя дэпутаты ведалі, за што яны галасуюць.

●

Дваццаць гадоў запар праз старую вёску ездзіць на сваю дачу адзін важны чыноўнік з вобласці. За гэты час ніякіх змен у побыце вяскоўцаў не адбылося. Дарога — ямка на ямцы, тэлефонаў няма, крама — за пяць кіламетраў, на цэнтральнай сядзібе калгаса.

Дачу ж таго начальніка перараблялі некалькі разоў, імкнуліся падагнаць пад сучассе.

●

На плошчы Незалежнасці стаіць палатка. У ёй два чалавекі галадаюць. Адно з патрабаванняў галадаючых — даць ім зямлю.

Нехта з людзей, якія тоўпяцца побач з "барацьбітамі" за зямлю і волю, з абурэннем кажа пра аднаго з іх: "У яго ж маці старая ў вёсцы адна калупаецца на сваім паўгектарным лапіку. А сын сядзіць на плошчы, галадоўшчык знайшоўся. Сумлення ў чалавека няма".



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

●

Рынак, рынак, рынак...

Колькі слоў сказана аб ім за апошнія некалькі гадоў? Ідэя пабудовы "светлага будучага" штучна заменена на ідэю "рынкавага раю". Мінула больш чым дзесяць гадоў, а жыццё людзей зрабілася зусім невыносным.

У той жа час эксперты розных замежных банкаў літаральна навязваюць свае планы па далейшым скарачэнні вытворчасці прадукцыі. Мяркую, гэта патрэбна рабіць, каб запрацавала рынкавая мадэль эканомікі.

Словам, сёння як з Усходу, так і з Захаду на Беларусь вядзецца татальнае наступленне капіталу.

Аб якім адраджэнні нацыі ў сённяшнім стане можна весці гаворку, калі нават пры дыстрафічным сацыялізме людзі не адчувалі сябе прыгнечанымі маральна і фізічна, як мы адчуваем гэта зараз.

Відаць, насенне свабоды, кінутае "месіямі-сейбітамі" гарбачоўскага кшталту ў як след не падрыхтаваную глебу, дало кволыя парасткі, якія пакуль што заглушаны злосным пустазеллем карупцыі, фарысейства і маны.

АДГАЛОСКІ

# Не вінаватыя?

"Вінаватыя ў сваім адчаі", — прачытала я ў майскім нумары "Нашай Нівы" і парадавалася за рэдакцыю: які выдатны загаловак! Выдатны не ў сэнсе газетнай кідкасці, а сутнасна. Роспач і адчай — надзвычай цяжкія для чалавечай душы пачуцці. Гэта тое, што на царкоўнай мове называецца "грех уныния". Адны ўпадаюць у гэты грэх з-за прычын дастаткова сур'ёзных (смерць блізкіх, невылечная хвароба, супрацьзаконны рэферэндум і г.д.), другія могуць паддавацца паныласці праз сваю духоўную спячку ці апантанасць нейкай фікс-ідэяй. У любым выпадку чалавек сапраўды вінаваты ў сваім стане (калі стан здоўжыўся), бо не адсочвае эмоцый, не спрабуе пераключыцца, не шукае шляхоў выйсця з сітуацыі альбо змены стаўлення да яе.

Але я паспяшалася ў думках хваліць незалежнае выданне. Гаворка ў памянутым артыкуле пра іншае: за надрукаваны ліст Т. Судзілоўскай газеце вынес папярэджанне Дзяржкамдрук, і галоўны рэдактар даводзіць, чаму камітэт не мае рацыі. І асноўны аргумент — таму што аўтарку матэрыялу давялі да роспачы паўсюдная русіфікацыя, "фактычная дыскрымінацыя беларускамоўных грамадзян". На самай справе, мяркуючы па змесце і тоне працытаванага ліста, перад намі не ўпадак духу, а непрыхаваная агрэсіўнасць (а яна на шкале станаў размешчана вышэй). Адсюль і палкая нянавісць да "расейцаў", якія "згвалцілі нашых дзяцей", нашых прыгожых жанчын і нават нашых мужыкоў, "самых лагодных у свеце".

Ну, па-першае, расейцы не больш вінаваты ў сваёй пасіянарнасці, чым сонца, якое спальвае траву на выгане. Такімі іх сфармавалі імперыя і нямераныя прасторы, дзе ніколі не будзе ні ладу, ні парадку.

Па-другое, у адрозненне ад прыбалтаў нашы "лагодныя" мужыкі не спяшаліся бараніць сваю годнасць і свае правы, іх галоўная мэта — выжыць любой цаной, захавацца. (Па прынцыпе "Не до жиру, быть бы живу".)

Па-трэцяе, згодна з канцэпцыяй акадэміка М. Цяўлоўскага, нянавісць — гэта від некрафіліі. Што яна прыносіць, мы добра бачым на прыкладзе чачэнскіх падзей. Яна і ва ўмовах мірнага жыцця здольна выпаліць чалавека знутры, зрабіць з яго порхаўку. Ці здольна порхаўка працаваць на адраджэнне? Ці варта падаграваць такія настроі, выдаючы іх за патрыятызм? Нават калі ў краіне застанецца хаця б адзін свядомы беларус і ўвесь свет, смеючыся, будзе торкаць у яго пальцам, — і тады яму нельга ні адчайвацца, ні трэсціся ад варожасці. "Наша адвечная бяда, — як слушна зазначыў у артыкуле "Брату" Павел Севярынец, — мы ўвесь час хочам змяніць свет, не мяняючы сябе". Наадварот, мы так задаволены сабой, што ўжо не здольны адрозніць, дзе любоў да радзімы, а дзе наша ўласная гідкая пыха...

Яскравым прыкладам таго, як адмоўныя эмоцыі — у асноўным нянавісць і зайздрасць — атручваюць масавую свядомасць, з'яўляецца расійская праваслаўная прэса (маюцца на ўвазе газеты тыпу "Десятины"). Іх матэрыялы прасякнуты высакамернасцю, узвелічэннем сваёй веры, ідэалізацыяй расійскага мінулага, а таксама паталагічным непрыняццем "богомерзских иноверцев". Сярод іх, вядома ж, на першым мерцы — яўрэі. Гэта яны, мяркую, збілі з тропу вялікі рускі народ і адказныя за ўсе ягоныя беды.

Вельмі зручная пазіцыя. Але негуманная. Праваслаўе ў яго крайніх праявах (там, дзе яно змыкаецца з вялікадзяржаўнасцю) увогуле далёкае ад хрысціянства; занадта многа нелюбові і асуджэння.

Што ж атрымліваецца? Мы будзем ненавідзець і вінаваціць рускіх, тыя — яўрэяў, гніючы Захад і г.д. Ні ўнутраных, ні знешніх праблем гэта не вырашае. Наадварот, дазваляе спіхваць адказнасць за стан рэчаў на іншых і закрываць вочы на ўласныя непераадоленыя слабасці і хібы. Менавіта тут "пачатак канца", адсюль тэндэнцыі да масавых аберацый, да маральнага самаатручвання, што можа выбухнуць разнёй і войнамі.

Што ж да газеты, якая навяла мяне на падобныя развагі, то яе дзейнасць з самага пачатку скіравана не на кансалідацыю, а на раскол. Новая "Наша Ніва" па ўсіх правілах халоднай вайны падзяліла нацыянальную інтэлігенцыю на "нашых" і "нянашых", больш беларусаў і менш беларусаў, эліту, верную "тарашкевіцы", і "камунякаў". Раскол прайшоў не толькі па нацыянальных асяродках, але і па нешматлікіх дэмакратычных шэрагах. "Нашы" поўняцца пачуццём перавагі і абранасці. Як не згадаць лідэра Маладога Фронту, які з вялікай пранікліваcцю регледзеў прычыну сённяшняга ўпадку: "Наша родная *апазіцыйная* пыха, нянавісць, самазадаволенасць, фарысейства і лянота — вось яно, арганізаванае зло, якое не дае падняцца краіне".

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## "Запаветнае"

**Кніга выбраных твораў народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля "Запаветнае" стала дзесятым томам у серыі "Беларускі кнігазбор", распрацаванай, як вядома, у Інстытуце імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. А адкрываецца яна ўступным артыкулам "Думаючы пра вечнае, бачыць штодзённае", аўтарам якога з'яўляецца Серафім Андраюк. Слынны даследчык**



**зазначае: "Янка Брыль — класік нацыянальнай літаратуры. Заняў ён гэтае ганаровае месца не па афіцыйным загадзе і не з афіцыйнага дазволу. Многія ягоныя творы сёння сталі хрэстаматыйныя. Яны вывучаюцца ў школе і ў вышэйшых навучальных установах. Яны ў беларускай літаратуры, найперш у прозе, вызначылі, па сутнасці, стварылі, вельмі яркую і глыбокую лірычную плынь. На канец дваццатага стагоддзя плынь надзвычай перспектыўную. Яны, нарэшце, сталі незаменным набыткам у духоўным жыцці нацыі і народа". С. Андраюк падрабязна прасочвае жыццёвы і творчы шлях Я. Брыля, запыняючы больш падрабязна ўвагу на яго найбольш значных творах, у тым ліку і на тых, што склалі том "Запаветнае", выданне якога ажыццёўлена пры фінансаванні з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Значнае месца ў томе займаюць аповесці "Ніжнія Байдуны", "Золак, убачаны здалёк", "Муштук і папка". Усе яны добра вядомыя чытачу, асабліва першыя дзве, не ў апошнюю чаргу і таму, што напісаны тады, калі праблем з кнігавыданнем не існавала, а брылёўская проза заўсёды была запатрабавана. Аднак перавыдавалася, як вядома, лепшае (не будзем гаварыць пра тыя выпадкі, калі гэтага пэўны аўтар дасягаў, дзякуючы сваім вялікім прабіўным здольнасцям). Аповесці ж "Ніжнія Байдуны" і "Золак, убачаны здалёк" — такія, што хочацца перачытваць. Кожная — надзіва яркая і адметная. Першая — іскрысты, па-сапраўднаму народны гумар, яркія, надзіва самабытныя характары, узятыя пісьменнікам з самога жыцця, калі што ні чалавек — па-сапраўднаму непаўторны свет. У "Золаку, убачаным здалёк" Я. Брыль вяртаецца ў ранняе маленства. Пераканаюы: "бачыць самога сябе з вялікай адлегласці бывае вельмі прыемна. Бо бачыць не проста самога сябе, а сябе найлепшага, без памылак і балючых дакораў сумлення". І ў гэтым творы, як і ў "Ніжніх Байдунах", пісьменнік не прыхарошвае вясковае жыццё, а падае яго такім, якім было, не адмаўляючы і таго негатыўнага, што спадарожнічала простаму чалавеку. У аповесцях усё, як у жыцці, а жыццё бывае розным. Драматычныя, трагічныя моманты яго асэнсоўваюцца ў аповесці "Муштук і папка", напісанай Я. Брылём параўнальна нядаўна, у 1990 годзе. Аўтар расказвае пра трагічны лёс свайго самага старэйшага брата Валодзі, які стаў ахвярай сталінізму і знайшоў вечны спачын у Быкаўні (кіеўскіх Курапатах). Пачуўшы аб гэтым ад украінскага карэспандэнта "Литературной газеты" (пра саму смерць ведаў, як і ведаў тое, што ў 1957 годзе рашэнне тройкі адносна У. А. Брыля перагледжна і адменена "за отсутствием состава преступления"), паспяшаўся ў Кіеў. Знойдзены пры эксгумацыі астанкаў сталінскіх ахвяр муштук з надпісам "Брыль В. А. 16. IX. 1937 г." выклікаў жаданне пабольш даведацца пра дарагога чалавека. Але аповесць не толькі пра У. Брыля. Са старонак твора паўстае трагедыя ўсяго народа, цэлай краіны: "Пры той жахлівай масавасці генацыду — у адным чалавечым лёсе няма нічога надзвычайнага. Апроч цуду з імянным муштуком, цуду — аднаго на сотні тысяч ці мільёны. І мне так неабходна найясней убачыць, як расказаць пра гэта — пра звычайнасць і незвычайнасць, універсальнасць трагедыі, заключанай, як у маленечкай кроплі, у гісторыі адной чалавечай сям'і. На прыкладзе свайго мне лепш, а можа, і найлепш відно, як гэта жудасна — замучыць, забіць невінаватага". Увайшлі ў том вядомыя апавяданні ("Галя", "Маці", "Memento mori", "Гуртавое" і іншыя), мініяцюры, а таксама эсэ "Мой Чэхаў", "Алесь Адамовіч", "Наш Караткевіч".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КНІГАРНЯ

# Вяртанне класікі

Яшчэ адно, не пабаюся сказаць, свята на беларускай вуліцы: у вялікай і папулярнай серыі "Беларускі кнігазбор" выйшаў аднатомнік выбраных твораў гродзенскай пісьменніцы XIX стагоддзя, класіка сусветнай літаратуры Элізы Ажэшкі. Як ні дзіўна, мы толькі цяпер, праз сто з лішнім гадоў пасля напісання, па-сапраўднаму пачынаем адкрываць яе цудоўную мастацкую прозу, у якой яна з незвычайнай пранікнёнасцю і любоўю расказала свету пра адзін з вялікіх і самабытных славянскіх народаў у цэнтры Еўропы — беларусаў. У аповесцях "Нізіны", "Дзюрдзі", "Хам" і шэрагу апавяданняў, як зазначае складальніца тома Валянціна Гапава ва ўступным артыкуле, Эліза Ажэшка данесла да шырокага чытача суровую праўду жыцця беларуса, стварыла яго псіхалагічна дакладны вобраз, паказала, якія пачаткі вялікага развіцця тояцца ў прыніжаным, але цярплівым і вынослівым беларускім народзе. "Беларускі цыкл" твораў адзначаны вострай сацыяльнасцю, паэтычнасцю і глыбокай чалавечнасцю. Сапраўды наватарскім было глыбокае даследаванне жыцця беларусаў, мастацкае пранікненне ў духоўны свет чалавека, якому суджана было заваяваць права грамадзянства ў літаратуры".

Нездарма дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя ў раскрыцці гісторыі і змагання свайго народа за волю і незалежнасць перш за ўсё звярнуліся да творчасці гродзенскай пісьменніцы, да яе "беларускага цыкла". Інсцэніроўка аповесці Элізы Ажэшкі "Хам" ставілася Першай драматычнай трупай Ігната Буйніцкага, самадзейнымі драматургамі Вільні і іншых гарадоў Беларусі. Цесна звязана з імем Элізы Ажэшкі і гісторыя Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, ранейшага БДТ-1. Самым першым творам на сцэне гэтага тэатра было якраз інсцэніраванае апавяданне Элізы Ажэшкі "Зімовым вечарам", пастаўленае рэжысёрам Фларыянам Ждановічам 14 верасня 1921 года — дата пачатку дзейнасці славутага калектыву купалаўцаў. Аўтарам інсцэніроўкі быў адзін з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага адраджэння Вацлаў Ластоўскі. Услед за "Зімовым вечарам" БДТ-1 паставіў на сваёй сцэне і інсцэніроўку "Хама". У 1923 годзе драматычную інсцэніроўку Ажэшчынага апавядання "Зімовым вечарам" паставіла таксама трупа Уладзіслава Галубка.

Але ў хуткім часе Эліза Ажэшка ў прамым і пераносным сэнсе слова сышла са сцэны. Сапраўднае мастацтва, сапраўдная літаратура стала непатрэбная краіне. Літаратуру замянілі бяздумныя "бурапенныя" вершы-агіткі, паэмы-агіткі, раманы-агіткі, п'есы-агіткі. Пісьменнікам прадпісвалася ўслаўляць герояў электрыфікацыі, індустрыялізацыі, калектывізацыі, сталінскіх пяцігодак, Асінбуды, Беламорканалы, Турксібы, Днепрагэсы, цалінныя землі, Цымлянскія хвалі, БАМы і г.д., і г.д. Сапраўдная літаратура, якая раскрывала ўнутраны свет чалавека, высокія чалавечыя пачуцці, аб'яўлялася перажыткамі "праклятага капіталістычнага мінулага", лічылася варожай будаўнікам камунізму і таму адкідвалася як непатрэбшчына.

Сёння, калі прыйшоў час "збіраць камяні", калі былое савецкае грамадства пачынае паступова цверазець ад шматгадовага ўсеагульнага ачмурэння, мы павінны адшукаць у літаратурнай "бурапене" і вярнуць людзям усё здаровае, праўдзівае, сапраўды мастацкае, што не захацела ўціскавацца ў вузенькія рамкі сацрэалізму і не паддалося ідэалагічнаму дыктату. Мы павінны вярнуць народу і тыя вялікія культурныя каштоўнасці, якія ствараліся на беларускай зямлі ў дасавецкім мінулым і якія мэтанакіравана і метадычна замоўчваліся адпаведнымі службамі.

Уяўляю, з якой асалодай будзе смакаваць чытач "густую" прозу Элізы Ажэшкі, з якой неадрыўнай цікавасцю будзе сачыць за драматычнымі момантамі жыцця такіх герояў, як абманутая прайдзісветамі прыгожая і сумленная вяскоўка Хрысціна ("Нізіны"), як чацвёра сялян па прозвішчы Дзюрдзі, якія праз сваю цямноту трапілі на лаўку падсудных за забойства "вядзьмаркі" — разумнай, вясёлай і добрай Пятрусі, што ўсім жаночым сэрцам пакахала вясковага хлопца Міхалку і стварыла з іх харошую сям'ю ("Дзюрдзі"), як улюбёны ў прыроду і волю нёманскі рыбак Павел Кабыцкі, што шчыра

# Каб душа не спала

У маі мая асабістая бібліятэка папоўнілася яшчэ адной кнігай. А набываць яе не было патрэбы: завітаў у рэдакцыю Мікола Макарцоў і падараваў сваё чарговае дзецішча з даравальным надпісам. Дзецішча ж гэтае — зборнік сцэнарыяў народных святаў і абрадаў "Беларусь гуляе", што выпушчаны выдавецтвам "Чатыры чвэрці". Яно, як вядома, недзяржаўнае, тым больш прыемна, што так уважліва ставіцца да кніг, якія спрыяюць, кажучы агульнымі словамі, павышэнню культуры чалавека, далучэнню да яе лепшых набыткаў. Калі ж гаварыць адносна сцэнарыяў М. Макарцова, дык і выдавецтва "Чатыры чвэрці" рупіцца аб нацыянальным Адраджэнні, уносіць свой пасільны ўклад у яго. Не сакрэт жа, што на такіх выданнях, як "Беларусь гуляе", грошай не заробіш. Праўда, прыдбаеш больш важнае — маральнае задавальненне. Як атрымаюць яго і тыя, хто ўважліва пазнаёміцца з новай кнігай М. Макарцова.

Думаецца, да месца хоць крыху сказаць і пра яго папярэднія кніжкі. Першынцам стала "Тураўская легенда", што складалася з п'есы-сцэнарыя, увасобленага аўтарам на замчышчы ў старажытным Тураве, дзе і ажылі даўнія падзеі, цесна ўвязаныя з днём сённяшнім. А ўслед за першай выйшла і другая — "Каб не перасыхала крыніца..." Са старонак гэтага зборніка М. Макарцоў, як сведчаць аўтары прадмовы да кнігі "Беларусь святкуе" народная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч і доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі, паўстаў "вялікім энтузіястам і няўрымслівым шукальнікам, які, дзякуючы шматлікім вандроўкам па аддаленых мясцінах Беларусі, сустракае носьбітаў аўтэнтычнага фальклору і з іх вуснаў робіць дакументальныя запісы народных гульняў, абрадаў, увогуле ўсіх тэатральных відовішчаў і затым даводзіць гэта да чытачоў. Вартасць кнігі ў тым, што запісы пераважна зроблены на Гомельшчыне, па якой злавесна пракацілася рэха выбуху ў Чарнобылі, і многае з духоўнай і матэрыяльнай культуры ўжо паспела сцерціся, адысці ў нябыт назаўсёды".

Нарэшце, у 1996 годзе ў М. Макарцова выйшаў зборнік "Па святочных шляхах Беларусі", што меў падзагаловак "Рэжысёрскія нататкі". І дасведчаны чытач добра ведае, што словы гэтыя з'явіліся невыпадкова. М. Макарцоў, перш чым выступіць у ролі драматурга, пісьменніка, хораша зарэкамендаваў сябе як рэжысёр. І як стваральнік глыбока самабытнага фальклорнага тэатра "Жалейка" ў Гомелі, а таксама пастаноўшчык шэрагу народных святаў, многія з якіх мелі рэспубліканскі размах. Цяпер жа цудоўна спалучае ў сабе гэтыя дзве іпастасі — драматурга і рэжысёра. А наколькі яму ўдаецца ўзаемна дапаўняць самога сябе, і пераконвае новая кніга "Беларусь святкуе". Спачатку сцэнарыі народных святаў і абрадаў, што змешчаны ў ёй, у той ці іншай ступені, поўнасцю альбо ўрыўкава былі апрабаваны на практыцы, а цяпер прапануюцца як літаратурныя творы, з якімі, няма сумнення, з цікавасцю пазнаёмяцца і тыя, хто праз некаторы час захоча сам іх увасобіць, ператварыўшы ў яркія, непаўторныя відовішчы.

Ды як не зрабіць гэта, калі сцэнарыі такія змястоўныя, непаўторныя, што калі чытаеш іх, зайздросціш тым, хто валодае дарам рэжысёрскага ўвасаблення ўсяго гэтага. М. Макарцоў у дадзеным выпадку выступае, як аўтар твораў, што ўвабралі ў сябе, адлюстравалі каляндарна-абрадавую, сямейна-абрадавую і пазаабрадавую паэзію беларускага народа. Сцэнарыі тэматычна звязаны з рознымі порамі года, таму ў кнізе можна знайсці матэрыялы да асноўных фальклорных святаў, якія праходзяць і зімой, і вясной, і летам, і восенню. І каторае ні возьмеш — шчодрасць фантазіі сцэнарыста, яго зайздроснае ўменне цесна спалучаць у адно цэлае як лепшыя фальклорна-абрадавыя набыткі, так, дзякуючы багатай фантазіі, уносіць нешта новае, якое, аднак, не супярэчыць народным традыцыям.

Гэта відаць і з першага сцэнарыя "Беларус гуляе...", што, дарэчы, у параўнанні з іншымі мае больш абагульнены характар. Напісаны на аснове сінтэтычнасці аўтэнтычнага і стылізаванага фальклору, ён, аб чым сведчыць ва ўступе сам М. Макарцоў, узяў у сябе ўсе жанры народнай творчасці. А гэта — тэатральны, песенны, музычны і харэаграфічны. Дзеянне разгортваецца такім чынам, што і на самай справе атрымліваецца спектакль, які, паводле задумы аўтара, можа ўвасабляцца як на сцэнічнай пляцоўцы, так і пад адкрытым небам, у прыродных умовах. А каб тэатралізаванае відовішча "Беларус гуляе..." набыло сваю цэласнасць, кампазіцыйную завершанасць, М. Макарцоў удала знайшоў той стрыжань, што паядноўвае асобныя, калі можна так сказаць, нумары, састаўныя часткі яго. Праз увесь сцэнарый праходзіць звычайнае кола з-пад вазка. Уздзетае на аглоблю, яно ўвасабляе, сімвалізуе сабой гадавы круг святаў, абрадаў, народных звычаяў.

Важны і яшчэ адзін момант: М. Макарцоў пабудаваў сюжэт гэтага сцэнарыя такім чынам, што кола ў пралогу ператвараецца ў ігравую дэталь. На яго ўзбіраецца адзін з хлопцаў і пачынае свістаць, жартаваць з прысутнымі. А каб узабрацца на кола, трэба ўсё ж быць спрытным, не кожнаму гэта па сіле. Тым самым эпізод набывае і элементы народна-цыркавой манеры. Адзін узбіраецца на кола, іншыя хлопцы і дзяўчаты жартуюць... Пасля хлопец пачынае кола круціць вакол сябе. Хочаш-не хочаш, а спрынішся, захоплены відовішчам, і з вялікай цікаўнасцю пачнеш сачыць за далейшым разгортваннем дзеяння.

А колькі досціпу, выдумкі, багатай фантазіі ў сцэнарыях "Вось мы ідзём і казу вядзём", "Зіму праводзім, вясну сустракаем", "Юр'еўскае ігрышча", "У купальскую ноч", "Беларускае вяселле" і іншых?! М. Макарцоў паўстае тонкім знаўцам фальклору, народных традыцый і тым улюбёнцам у іх, які разумее значнасць гэтай багатай духоўнай спадчыны дзеля ўратавання нацыі ад пошасці масавай культуры з яе эрзацамі і ўсёдазволенасцю, з адыходам ад светлага, чыстага, нерушавага. Таму з такім натхненнем і паслядоўнасцю прапагандуе ўсе лепшае і шукае кожную магчымасць, каб задуманае давесці да лагічнага завяршэння. Аднак, як сведчыць і гэтая кніга ды і папярэднія, не толькі сам руліцца аб наладжванні масавых святаў і тэатральных відовішчаў, а жадае, каб і іншыя спрычыніліся да такой важнай справы.

Павучыцца ж у М. Макарцова ёсць чаму... І тыя, хто па-сапраўднаму жадае надаць культурна-масавым мерапрыемствам, якія

РЭХА

# Вінавата нячыстая сіла

У публікацыі "Паляванне на апошняга Ведзьмака" ("ЛіМ" ад 19 мая г. г.) у маіх разважаннях адносна аўтарства славутага "Сказа пра Лысую гару" дапушчана адна прыкрая недакладнасць. Там на шостай старонцы ад майго імя сцвярджаецца, што "асноўны тэкст паэмы і дадатак той (з апалагетыкай П. Шаўцова, які нармальна і двух сказаў напісаць не мог, а тут выдаецца за выдатнага даследчыка) створаны кімсьці з сяброў Шаўцова па ягонай просьбе". На самай справе я тут казаў толькі **пра той дадатак**, гэта значыць пра напісаныя пазней за **асноўны тэкст** "Сказа" 22 радкі з праслаўленнем Шаўцова, які нібыта закасаваў усіх даследчыкаў паэмы і з цягам часу ("год праз дваццаць сем") зможа адкрыць сапраўднага аўтара твора. Вядома, нічога такога не адбылося і адбыцца не магло. У свой час я атрымаў згаданы дадатак па пошце, пасля таго ўжо, як былі прачытаны і ўволю абсмакаваны 33 машынапісаныя старонкі **асноўнага тэксту** — яе першапачатковая, самая моцная частка. Да гэтага **асноўнага тэксту** Шаўцоў не меў і не мог мець ніякага дачынення, бо выдатныя творы калі і ствараюцца па падказцы, дык толькі вельмі выдатных людзей, можа, такіх, як Пушкін, які прапаноўваў сюжэты Гогалю. Такім чынам, словы пра "асноўны тэкст паэмы" ў цытаваную фразу заляцелі невядома як. Спачатку падумалася, што іх з нейкай выкрасленай у працэсе рэдагавання зусім іншай фразы ўставілі з-за недагляду лімаўскія карэктары. Але гэта залішне простае, будзённа-празаічнае тлумачэнне. А наш час

*І коціцца каменнямі з гары*
*Мной збудаваная калісьці вежа.*

•

*Гэты дзень нічым не лепшы*
*За апошні — і найпершы.*
*Творца аддзяляе*
*Цвердзь ад вады.*
*Евы насяляюць*
*Райскія сады.*
*Да выратавання*
*Тры цвікі ды крыж.*
*Ты ў сівым тумане*
*Спіш,*
*Беларусь.*

•

*Ці абуджаюся — ці паміраю.*
*Стукае сэрца ў сусветную цвердзь.*
*Раскрыжаваць на прыступцы да раю —*
*Вытанчанней пакарання не мець.*
*Праведны люд падымаецца ў неба,*
*Лёгка ступае на грудзі мае.*
*"Так і належыць, напэўна, як трэба", —*
*Нацыянальны характар пяе.*
*Часам пасядуць вакол херувімы,*
*Каб адпачыць ад ухвал і святла...*
*Не адарвацца ад любай радзімы.*
*Усімі цвікамі ў душу мне ўвайшла.*

## Сыход з Егіпта

"Калі народ пабачыў, што Майсей доўга не сыходзіць з гары, то звярнуўся да Аарона і сказаў яму: устань, і зрабі нам бога..."

**Сыход, 32.1**

*То манна нябесная, то перапёлкі,*
*То льецца вада са звычайнай скалы..*
*Ды толькі былыя рабы — не анёлкі.*
*Абрыдлі ім скалы, пясок ды арлы.*
*А ну, паспрабуй адысціся на хвілю,*
*Прыўзняцца да неба, да Бога-айца...*
*Унізе з металу каштоўнага вылье*
*Твой брат улюбёны куміра-цяльца.*
*Куды ты вядзеш іх, звяглівых, дрыготкіх,*
*Няўжо спадзяешся, што ў новай зямлі*
*Забудуць на зайздрасць,*
*нянавісць і плёткі,*
*І ўспомняць прарока, якога клялі?*
*І мала ім цудаў, іх вера не ўздыме,*
*І хочацца зноў пад чужую руку...*
*І Бог паміж іх — не заўважаны імі.*
*Скрыжалі разбітыя*
*ў хвалях пяску.*

*На беразе на тым — стаіць царква,*
*на гэтым — дрэва вечнае стаіць.*

2

*Ці то сабой зямля яго трымае,*
*ці каранямі ўжо яно — яе, —*
*у неба дрэва гонкае сягае,*
*аблокі вольнай кронай дастае.*

*І нават бачна здзіўленаму зроку,*
*як памагае родны краявід*
*скрозь тонкае сінечы паваловку*
*падперці вершалінай і зеніт.*

*Яму і спёка першаму, і холад,*
*маланкі і грамы — яму найперш.*
*Не проста дрэва стромкае, а — волат,*
*яму адно стагоддзе — не рубеж.*

*І ўжо як быццам робіцца спакойна*
*за гэтыя ляскі, лугі, палі,*
*калі такое дрэва так грунтоўна*
*мацуе еднасць неба і зямлі.*

## Птушка

**Да карціны В. Альшэўскага "Сімвал"**

1

*Не жар-птушка з даўняй казкі*
*і не з песні птушка шчасця, —*
*выгляд у яе не райскі,*
*хоць і споўнена стракацця.*

*Калярове спляценне*
*і наплываў, і падцёкаў,*
*толькі дзюба без скажэння*
*ды напружанае вока.*

*Намаганні крылля-пер'я*
*у суцэльны рух зліліся, —*
*воля майстра-чарадзея,*
*што займеў свае ўжо высі.*

2

*І ляціць гэта птушка без зморы,*
*І ляціць яна без адхілення,*
*у бязмежнай, адвечнай прасторы*
*рассякаючы дзюбай імгненні.*

*Неўтаймоўная птушка-надзея?*
*Ну канешне, а як жа іначай!*
*Захапляльная птушка-ідэя?*
*Дык відаць па выяве гарачай.*

*Птушка-мара? Напэўна, напэўна...*
*Птушка-доля? Дык вельмі падобна...*
*Птушка-прага? О, як несумненна!..*
*Птушка-воля? Так бачыцца добра...*

*Ну, а ўвогуле ўжо — птушка-сіла,*
*што і прагай, і воляй, і рухам*
*абярнулася ў полымны сімвал,*
*перапоўнены часавым духам.*

ДЭБЮТ

Міхась ЮЖЫК

# БАЦЯ



АПАВЯДАННЕ

Аўтар рускамоўнай паэтычнай кніжкі "Белый сад" ("Полибиг", Минск, 1999 г.) Міхаіл Сотнікаў (Міхась Южык) нарадзіўся ў 1969 годзе ў беларускай сталіцы. Скончыўшы РТІ, каля трох гадоў працаваў на заводзе "Гарызонт"...

На вялікі жаль, цяжкая траўма не дазволіла яму цвёрда *стаць на свае ногі*. Пакуль, як панацэя ад душэўных згрызот, не легла на сэрца паэтычнае слова. І ўсё ж народная мова, як мачаха, не магла даць удосталь запатрабаванай ім любові.

На шчасце — родная была побач, яна й сагрэла...

А тут і мы — заўважылі, азваліся, паклікалі: *"Ідзі да нас!"*

І — о цуд! — ён *пайшоў*...

Яго проза і вершы ў часопісе "Крыніца" дый вось гэты лімаўскі дэбют, як мне здаецца, сведчаць пра тое, што лёс нашага айчыннага шляху робіцца даўжэйшым на яшчэ адну чалавечую дарогу...

**Л. ГАЛУБОВІЧ**

Дзіўна, але самымі тлумнымі снамі, што прыходзяць да мяне поначы да апошняга часу, з'яўляюцца сны вайсковыя. Здавалася б — чаму? Колькі гадоў прамінула, колькі падзей адбылося, пры тым больш значных, яскравых, якія іншым разам і сасніць бы не грэх, дык жа — не! Сніцца па-ранейшаму ўсё армейскае.

Удзень колішняя служба, бадай, ужо не згадваецца і, можна сказаць, аніяк не ўплывае на мае жыццёвыя паводзіны і стасункі. А вось ноччу, калі не кожную, дык праз адну, мая неспазнаная сутнасць выцягвае з неймаверных таямніц пастаці і ўчынкі таго часу, водзіць па даўно пераадоленых пуцявінах, дзе было, на жаль, нямала брыдкага, агіднага, нават пачварнага. Тады прачынаешся ў ліпкім поце, не забыўшы падзякаваць Богу за незваротныя законы рэчаіснасці, і ляжыш млосны, зацята адбіваючыся ад назойлівых успамінаў аж да раніцы, пакуль зноў не зацягне цябе новы дзень у свае зусім не новыя клопаты і турботы.

У такія праклятыя хвіліны завітвае да мяне часцяком і Баця — бывалы салдат. І зноў і зноў прыгадваецца ягоны "дэмбель"...

Той чэрвень распачаўся на рэдкасць пагодліва. Ён проста ахінуў сваім хараством, патапіў у зеляніне вайсковы гарнізон у адным з заходніх райцэнтраў тадышняй агульнай савецкай прасторы. Паўсюль буялі травы, пляц і асфальтаваныя дарожкі плавіліся пад пякучымі промнямі. Яшчэ ў сярэдзіне мая скончыліся вайсковыя праверкі і справаздачы. Пацягнуліся дамоў "дэмбелі". Салдаты, што заставаліся, праводзілі іх з паважлівым захапленнем і мужна стоенымі ў вачах зайздрасцю і смуткам. Здзіўлялі раптам ачалавечаныя і прасветленыя твары дэмабілізаваных, паблажлівасць і нязвычная абыякавасць малодшых афіцэраў да бязладдзя, якое панавала ў тыя дні ў гарнізоне. То быў час аддухі, калі ў кожнага, ад палкоўніка да апошняга салдата-свінара, прачынаецца нешта чулае, спагадлівае, высакароднае...

Я тады адолеў першы год службы з усімі яе выдаткамі-невыгодамі і меў досыць добры настрой. Тым болей, што апошнія два месяцы працаваў на вузле сувязі тэлеграфістам і ў казарме амаль не затрымліваўся. Тэлеграф знаходзіўся ў будынку гарнізоннага штаба, пад дахам якога туліліся агулам штабы некалькіх палкоў. У адным з гэтых міні-штабоў быў пісарам і заўсёдным дзяжурным мой зямляк-аднагодак. Мы моцна здружыліся і часта вечарамі наведваліся адзін да аднаго — паразмаўляць, адчуць родную душу, каб забыцца на тое жахлівае падабенства чалавечых адносінаў, у якія былі пастаўлены.

Мой сябар таксама рэдка завітваў у сваю казарму. Ён абсталяваў у будынку штаба на лесвічнай пляцоўцы (там была немалая ніша) даволі ўтульную каморку, дзе дняваў і начаваў, калі не дапякала пільная праца. Былі там і магнітола, і электрачайнік. Вечарамі мы слухалі там касеты, абмяркоўвалі пачутыя па радыё апошнія звесткі, распавядалі пра сваё колішняе цывільнае жыццё, марылі і па-свойму верылі ў будучыню. А ўначы, бывала, выпраўляліся цішком за тэрыторыю гарнізона ў пошуках маладых прыгод. Карацей кажучы, служылася нам зусім няблага, каб не маркота ды не туга па доме, што апаноўвалі неадчэпна нашы душы пры адным поглядзе на малайцаватых "дэмбеляў", якія штодзень шпацыравалі паўз вокны штаба.

Пасля абеду мы ўмудраліся паляжаць з паўгадзіны ў высокай траве за штабным будынкам. Займаліся, як мы казалі, "страваваннем", а заадно пільнавалі афіцэраў з КПП: угледзеўшы іх, трэба было шыбаваць у душныя памяшканні і рабіць выгляд, што нешта робіш.

І вось у тыя дні я пачаў прыкмячаць, як па асфальтаванай дарожцы наўсцяж аляпаватых камяніц казармаў праз усю гарнізонную тэрыторыю клыпае да сталовай дзіўная постаць. Акурат клыпае, а не ідзе. То быў не салдат, а карыкатура на салдата: без пілоткі, згорблены, рукі вісяць вяроўкамі, утравела-пазеленелы твар унураны ў дол, на босых нагах — тэпці-шлэпы. Ён, бы нейкі адшчапенец, выпаўзаў з казармы пасля таго, як усе палкі больш-менш роўным строем ужо даўно пакінулі сталоўку. І тады ён, гэты недарэка, цёгся па напаленым спёкай асфальце. Ён не вітаўся з салдатамі, не наструньваўся перад рэдкімі стрэчнымі афіцэрамі, і — дзіва — яны нават не спрабавалі рабіць яму заўваг. Кожны раз, калі ягоная постаць трапляла мне на вока, я міжволі праводзіў яго паглядам, пакуль бедачына не раставаў у спякотным чэрвеньскім мроіве.

Толькі пасля шматдзённага цікавання за гэтай дзіўнай постацю я раптам даўмеўся, што салдат выходзіць з казармы палка, у якім служыць мой сябра. Я запытаўся:

— Ты ведаеш, хто гэта?

— То ж Баця — гарапашны наш "дэмбель", — прыўзняўшы галаву над дзьмухаўцамі, адказаў сябра.

— Баця?.. Чакай, чакай... Баця?!

Апечаны неспадзяванай здагадкай, я ўскочыў на ногі і пашыбаваў напярэймы невясёлай істоце, што якраз пачынала свой заўсёдны шпацыр. Я спыніўся на бардзюры, доўга, да непрыстойнасці доўга ўзіраўся ў аблічча салдата. Але той аніяк на мяне не зважаў, адно ўсміхаўся нечаму свайму і па-вар'яцку варушыў губамі. Шкляныя вочы, апушчаныя ў асфальт, уражвалі пустэчай. Салдат быў, відаць, п'яны.

Баця, зухаваты Баця, "дзед", нядаўняя граза ўсяго гарнізона... Канешне, гэта быў ён. Праўдзівей, ягоны прывід.

Вайсковыя часткі ў нашым гарнізоне былі "згорнутыя", ва ўсіх разам служыла не болей як трыста салдат і паўтары сотні афіцэраў і прапаршчыкаў. І Бацю, лічы, усе ведалі. Ведаў яго і я. Але ўбачыць яго ў такім выглядзе ніяк не чакаў. Няўжо гэта ён? Мы з сябрам згадвалі гэтага колішняга "дэмбеля" і не маглі даць веры вачам. Колькі шуму, колькі баек, нават легенд было вакол гэтага імя! А цяпер Бацяў неахайны і трагікамічны выгляд не проста бянтэжыў, а выклікаў недаўменне.

А дайшоў ён да такога жыцця вось як...

Салдат з мянушкай Баця той вясною канчаў сваю тэрміновую службу. Родам ён быў, казалі, аднекуль з прыдонскіх стэпаў, гэтакі хвацкі казак, акурат шолахаўскі Грышка Мелехаў — цёмнавалосы, смуглявы, высокі. Крыху сухарлявы — адны жылы. Крок размашысты і ўпэўнены. А ў дадатак да ўсяго — вусы, кучаравая чупрына, што пілоткай не прыхаваеш, і надзіва моцны і пявучы голас. Выглядаў ён гадоў на пяць старэй за іншых салдат. Мо так і было напраўду, але, хутчэй, быў проста бездакорным узорам маці-прыроды — у сэнсе дужасці і спрыту.

Нехлямяжая салдацкая форма сядзела на ім ладна, нейк зухавата-фанабэрыста блішчалі боты і бляха на рэмені, а пілотка неймаверным чынам трымалася на самай макаўцы галавы. Баця быў не з тых, хто згаджаўся марна губляць дарагія дні маладога жыцця, кідаць яго пад ногі армейскай бязглуздай муштры і тузаніне. З яго так і перла энергія. Што б ні рабіў — у страі, у парку баявой тэхнікі, у казарме, на спортпляцоўцы, падчас самаволак і законных звальненняў у горад — рабіў зацята, з відочным жаданнем быць першым.

Характару быў неўтаймоўнага. Славіўся на ўвесь гарнізон тым, што ніколі не аддаваў чэсці малодшым афіцэрам, апроч "афганцаў". І прымусіць яго рабіць гэта было немагчыма. Лейтэнанты палка былі з Бацем амаль запанібрата, афіцэры ж суседніх, каб прылюдна не абняславіцца, лічылі за лепшае да яго не чапляцца.

Можа, дзякуючы Бацю ды яшчэ некальким гэткім жа славянам-асілкам, не было ў палку ўсім вядомага тады засілля каўказцаў, іх паскуднага "зямляцтва". Маладыя салдаты працавалі ўсе, незалежна ад нацыі, і гэта было справядліва.

Наогул, пачуццё справядлівасці было нейк арганічна ўласціва гэтай моцнай натуры. Ён проста не мог прайсці міма, убачыўшы зняваґу, гвалт ці няпраўду. У сталовай Баця харчаваўся звычайна ў кампаніі стараслужачых: з пакепліваннямі, з гучнымі жартамі. Каля іх століка ніхто з маладых не выдыгаў, не прыслужваў. Больш таго, заўважыўшы якісьці пачварны здзек з першагодкаў, Баця ўступаўся адразу і на расправу быў жорсткі. Хоць, зрэшты, звычайна дастаткова было і яго грамавога вокрыку і вырачаных у шаленстве бялкоў на смуглым твары, каб суняць любога нахабніка. Баці баяліся ўсе. Нават чачэнскія групоўкі салдат з танкавага, самага вялікага палка, паважалі Бацю і пазбягалі з ім спрэчак. Я пабачыў аднойчы, як ён абламаў нават лейтэнанта, які, раззлаваўшыся на сумятню ў чарзе пры раздачы абеду, пачаў за валасы цераз нізкую загарадку выцягваць адтуль маладых салдат. Баця разлютавана сціснуў кулакі, і афіцэр спасаваў, ганебна саступіў. Лейтэнант быў "пінжак", тэрміновай службы, пасля інстытута, якіх салдаты асабліва недалюблівалі.

Баці хапала на ўсё. Ён заляцаўся да маладых кухарак і тэлефаністак і, па чутках, даволі паспяхова. Наладжваў гульні ў мяч на стадыёне, быў аматарам пакурыць ды пабалакаць. У вольны ад афіцэрскага нагляду час, "заправіўшыся" з сябрамі мутнай, "дастаўленай" з прыватнага сектара самагонкай, меў ахвоту паспяваць, і рабіў гэта досыць удала. Яго зычнаму, мілагучнаму голасу непатрэбны быў акампанемент.

Ды аднойчы, падчас зімовых палявых лагераў, калі полк жыў у палатках на ўскраіне горада, Баця "падсілкаваўся" і напракудзіў. Надвячоркам, пасля эннай пляшкі "гаручага", асядлаў ён БТР і пачаў гойсаць спярша па ваколіцах, а затым і па вуліцы прыгараднай вёскі. Струшчыў некалькі платоў, зруйнаваў зруб калодзежа. Дзякаваць Богу, нікога не загубіў — усе былі ў хатах. Зрэшты, хіба хата для такой махіны — перашкода?

Скандал пагражаў усчацца на ўсю дывізію. Камандзір палка, суровы і цёрты маладжавы дзядзька, і сам употай не грэбаваў тымі ці іншымі армейскімі пацехамі. Цяжкі крок ягоных ботаў і дробны цокат жаночых абцасікаў нярэдка можна было чуць поначы ў цёмным штабным калідоры. А па суботах мой сябар, бывала, валок на сабе прыцемкамі да афіцэрскага гарадка ачмурэлых ад бясплатнага спірту штабных служак. Але — парушаць мірны сон цывільных?..

Баця быў пакараны. Не ўшчуваннямі, не гаўптвахтай — познім "дэмбелем". Камандзір, як сумленны чалавек, адразу ж паабяцаў яму гэта — сам-насам. Пасля паўгода аб тым не ўспамінаў, не азмрочваў Бацеву службу дробнымі прыдзіркамі ды знявагамі. Але прысуд — здзейсніў. Апошні дэмбель у палку пайшоў дамоў у сярэдзіне мая, а Баця застаўся — адзін, нікому не патрэбны, як пустое месца. Яго проста пакінулі гібець яшчэ паўтара месяца.

*(Працяг на стар. 12)*





што дзякуючы рэжысуры В.Баркоўскага створаны пэўны спосаб сцэнічнага існавання персанажаў; падкрэслена: усё, што адбываецца тут, дзеецца, магчыма, у згасаючай свядомасці мастака. Таму мы бачым застыласць, нерухомасць, знітаванасць у маналітную групу ці запаволенасць сінхронных рухаў, чуем неспадзеўны смех дзеючых асоб.

Спектакль поўнасцю вырашаны ў графічнай манеры. Перад намі быццам бы серыя малюнкаў, напісаных чорнай тушшу. Белы колер толькі зрэдку ўрываецца сюды пэўным дысанансам.

На жаль, памеры артыкула не дазваляюць мне спыніцца на ўсіх прэм'ерах бягучага сезона. І нават пра лепшыя спектаклі давялося расказаць вельмі сцісла. Калі быць цалкам аб'ектыўным, дык не ўсе пастаўленыя творы раўназначныя ў мастацкіх адносінах. Напрыклад, для мяне абсалютна непрымальна рашэнне пушкінскай паэмы **"Руслан і Людміла"** (пастаноўка Ю. Лізянгевіча) у жанры рок-оперы, калі ўвесь спектакль ідзе пад фанаграму. Выклікае нараканні і пастаноўка знакамітай камедыі А. Астроўскага **"Праўда — добра, а шчасце — лепш"**. Калі рэжысёр (Ф. Шмакаў) выбірае эклектыку як прыём, то яна павінна быць апраўдана ўсёй структурай спектакля. У згаданым выпадку стылёвая разматасць выглядае проста недарэчнай. Спектакль "ратуюць" толькі прыстойныя работы некаторых акцёраў старэйшага пакалення (найперш Т. Скварцовай, Ф. Шмакава, Л. Пісаравай).

І яшчэ. Адсутнасць пэўны час у тэатры галоўнага мастака робіць яму дрэнную паслугу. У апошнія гады менавіта сцэнаграфія з'яўляецца найбольш слабым звяном у мастацкай структуры спектакляў.

А ўвогуле тэатр знаходзіцца ў вельмі цікавым творчым пошуку. Пэўна, заслуга Баркоўскага ў тым, што ён змог задзейнічаць усіх артыстаў (у тым ліку і зусім зялёных студыйцаў) у сёлетнім рэпертуары. У трупе, здаецца, няма праблемы творчага прастою. Шкада, канешне, што пайшлі з жыцця карыфеі старэйшага пакалення. Але радуе, што ім на змену прыйшла таленавітая моладзь. За ёй — будучыня.

**Юрась ІВАНОЎСКІ, тэатразнаўца**
**г. Віцебск**

*На здымках: сцэны са спектакляў "Чорная нявеста" і "Пад сонцам".*

*Фота А. ХІТРОВА*



лінай. А гэта, на жаль, вынік іх няпоўнага ўцаркаўлення.

**— Ці складана вам было ўраўнаважыць у апошнія гады дзве настолькі адрозныя сферы дзейнасці — творчае і царкоўнае служэнні?**

— Я не магу адлучыць у сабе святара ад кампазітара, і наадварот. Безумоўна, у 1996 годзе новае кола абавязкаў адсунула на нейкі час творчасць. Каля года я не пісаў: трэба было ўвайсці ў стан і ў ім зацвердзіцца. Цяпер з Божай дапамогай выходжу на творчыя рубяжы.

**— Што ўяўляюць сабой вашы цяперашнія творы?**

— Вядома, духоўную музыку! У мінулым годзе на кананічную малітву Сімяона Багапрыемца і трапар канона "Усім беларускім святым" для барытона сола і хору да 2000-годдзя Хрысціянства. Да гэтага ж юбілею збіраюся напісаць "Свете тихий", таксама догмат увасаблення Сына Божага.

Ведаеце, цяпер троху інакш ўспрымаю свае творы — як сцэны духоўных станаў, перажыванняў, вобразаў. Шукаю новыя кампазіцыйныя драматургічныя вырашэнні. І часам гавару сабе: "Гэта таксама, як храм утвараць..."

**Гутарыла Паліна БАРАВІК,**
**студэнтка Беларускай**
**акадэміі музыкі**

*На здымку: айцец Андрэй сярод удзельнікаў Каложскага брацтва.*

**ФІЛЬМАПІС**

***Першыя крокі кінематографа былі пацешныя: "жывыя карцінкі" здымаліся з адной кропкі, нерухомай камерай, не было ні змены планаў, ні мантажу. На пачатку XX стагоддзя "фільма" здавалася просценькай забаўкай. "Кінематограф — несумненна "варвар". Яго з'яўленне ў шэрагу тэатральных відовішч уяўляе рэнесанс прымітыву, які не можа ў эстэтаў тэатра не выклікаць засмучальнае ўражанне", — іранічна заўважаў у 1912 годзе тэатразнаўца А. Кугель.***

***Пра Вялікага Нямога загаварылі, калі з'явіліся кінатворы Грыфіта, Чапліна, Шастрома, Пратазанава, Мурнаў. Менавіта амерыканец Дэвід Ёрк Грыфіт вызначыў спецыфічныя магчымасці кіно: мантаж, ракурс, змену планаў. З часам кінарэжысёры засвоілі гук, колер, шырокі экран (а цяпер яшчэ долбі ды камп'ютэр). Фільму паверылі, ім захапіліся, кіно пачало ўплываць на жыццё людзей і ўжо больш за сто гадоў проста ашаломлівае іх сваімі штукарствамі.***

***З'яўленне на старонках "ЛіМа" рубрыкі "Фільмапіс" — своеасаблівы пратэст, нязгода з тымі, хто не верыць у будучыню кінематографа. Як бы ні лямантавалі невідучыя творцы, маўляў, кінематограф памірае, а кінавытворчасць не спыняецца ва ўсім свеце. Кіназалы не пустуюць, "фільма" па-ранейшаму захапляе, узрушвае. Захапляе, і як відовішчны, маштабны атракцыён (дзякуючы Галівуду ў лексіконе кінакрытыкаў з'явіліся новыя вызначэнні "тэхнакіно", "камп'юкіно"), і як глыбокі, мастацкі твор. А калі захапляе, значыць ідзе ў нагу з часам, нават апярэджвае яго.***

***У гэтай калонцы мне б хацелася знаёміць нашых чытачоў перадусім з лепшымі замежнымі фільмамі, што ідуць сёння ў мінскіх кінатэатрах. На жаль, нацыянальная студыя "Беларусьфільм" не выпускае зараз ігравых стужак, вартых увагі журналіста, таму з радасцю буду згадваць беларускія фільмы-юбіляры, спадзеючыся на тое, што Беларусь будучага стане прызнанай кінадзяржавай.***

# Адхланне прыгажосцю

...Пасля гэтага кінасеанса мая знаёмая выйшла расчараваная. Галівуд — падмануў. Пераможца "Оскара"-2000 "Прыгажосць па-амерыканску" чамусьці ўяўляўся ёй лёгкім, забаўляльным фільмам. Аднак больш за дзве гадзіны яна вымушана была назіраць за рэфлексіяй людзей, у якіх няма будучага, удумвацца ў сэнс чалавечага жыцця, у якім падчас нежывое здаецца прыгожым, а жывое — агідным.

"Калі ласка на амерыканскі парад выродкаў", — кажа адзін з герояў фільма, васемнаццацігадовы Рыкі. Дзякуючы відэакамеры, на якую юнак фіксуе жыццё, старанна занатоўваючы дэталі — будні суседзяў у доме насупраць — глядач патанае ў свеце дзіўных метамарфоз, дзе вар'яцтва з'яўляецца разважлівасцю, разбэшчанасць — цнатлівасцю, незвычайнае — самым банальным. У пошуку цудоўнага імгнення вока камеры бачыць глыбей за хлусілівыя маскі. Напрыклад, бацька сямейства Лестар (К. Спейсі) палка прагне сяброўку дачкі; яго дзелавітая жонка Кэралайн (А. Бенінг) не можа прадаць ніводнага дома; іх маўклівая дачка Джэйн (Т. Берч) марыць пра забойства. Прадавец наркотыкаў Рыкі (У. Бэнтлі) выдае сябе за добрапрыстойнага грамадзяніна; яго бацька, будучы "блакітным", адкрыта пагарджае гомасексуалістамі. "Заўсёды ўсміхайся!" — гаворыць знакаміты амерыканскі лозунг. Аднак рэжысёр "Прыгажосці па-амерыканску" бачыць за крывадушнымі ўсмешкамі звычайных амерыканцаў — боль, расчараванне, незадавальненне жыццём, для якіх паглядзець праўдзе ў вочы — ужо катастрофа. Героі фільма — гэта жывыя трупы. Саракагадовы Лестар памятае, што калісьці з жонкай яны былі шчаслівыя. "Зрабі выгляд, што ты шчаслівы", — упікае цяпер Кэралайн мужа. На аднолькавай вуліцы, у аднолькавых дамах жывуць бяскрылыя, з патухлымі вачамі людзі, дні якіх праскокваюць скрозь пальцы, а шматлікія рэчы — канапы, абабітыя італьянскім шоўкам, талеркі Трэцяга рэйха — здаюцца важнейшымі за жыццё. У фільме няма станоўчых герояў: ні бацькі, ні дзеці даўно не глядзелі ў неба.

Герой, які здымае на відэакамеру, увесь час разважае аб сутнасці прыгажосці. Сёння людзі жывуць у палоне пэўных стандартаў, жывуць мысленнем каляровых глянцавых часопісаў. Не дзіва, што небараку Лестара прыцягвае бландзінка з ідэальнымі формамі, якая лічыць, што няма нічога горшага ў жыцці, чым быць звычайным чалавекам. Рэжысёр фільма робіць адкрыццё: прыгожымі ў гэтым свеце якраз з'яўляюцца звычайныя рэчы. Танец цэлафанавага пакета, мёртвая птушка на зямлі — гэта непаўторныя імгненні. "Калі ты бачыш нешта падобнае, здаецца, што Гасподзь у гэты момант глядзіць на цябе", — разважае Рыкі. Аднолькавыя для ўсіх ідэалы прыгажосці не робяць людзей шчаслівымі. Таму самаўпэўненая бландзінка, якая трапляе ў аб'ектыў камеры юнака, здаецца сапраўдным выродкам, як і ўсе астатнія героі, якія баяцца быць самі сабой.

"Прыгажосць па-амерыканску" — гэта дэбют англійскага тэатральнага рэжысёра



Сэма Мендаса. Разам з цудоўным акцёрскім ансамблем яму ўдалося дамагчыся на экране "эфекта прысутнасці": фільм літаральна праглынае гледача. Наноў пачынаеш дыхаць, калі герой К. Спейсі гіне ад рукі суседа, і кроплі яго крыві здаюцца пялёсткамі чырвонай ружы, якая з'яўляецца сімвалам карціны, сімвалам лепшага, недасягальнага жыцця ("American beauty" — сорт амерыканскай ружы). "Праз год я памру, я ўжо памёр", — кажа Лестар на пачатку фільма. Гісторыя, якую прыдумаў драматург Алан Болл, — гэта гісторыя, якую расказвае нам мёртвы чалавек. Глядач адкрывае, што фільм — гэта ўсё жыццё, якое праносіцца перад вачамі Лестара за хвіліну да яго смерці. Хуценька бягуць кадры-дні, але за гэта імгненне герой паспявае пазнаць самога сябе, пазнаць сутнасць жыцця, сутнасць прыгажосці. Фінальная песня з рэпертуару "Бітлз" становіцца кропкай у жыцці Лестара. "Таму што круглы свет вакол мяне, таму што моцны вецер затуманьвае розум, таму што блакітнае неба вымушае плакаць..." Менавіта такія моманты трэба заэнаць кожнаму ў жыцці. Не дзіва, што Рыкі потым доўга ўглядаецца ў твар мёртвага Лестара: чалавек, які пазбаўлены злосці, нянавісці, расчаравання, якія памёр заканным, робіцца самым п р ы г о ж ы м.

Наогул фільм "Прыгажосць па-амерыканску" падобны на "сад разбеглых сцяжынак". Аднак у першую чаргу С. Мендас разбівае ўсе славутыя амерыканскія міфы: у фільме не ўбачыш ні шчаслівых сем'яў, ні свабодных людзей, здольных зрабіць сябе самых — тое, чым ганарыцца сёння Амерыка. "Амерыканская мара" тут паказана ў перакуленым свеце.

Атрымаўшы пяць "Оскараў", С. Мендас трапіў у галівудскую суполку рэжысёраў-шчаслівцаў. Сёлета знаўцы кіно выбралі не жанравы, не забаўляльны кінатвор, які быў бы зроблены па ўсіх канонах галівудскай "пляцоўкі для гульняў", а вельмі нестандартны, глыбокі фільм, які пакідае гледачоў у ашаломленым стане.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

# Вялікі адбор

ФАНТАСМАГОРЫЯ

Іван БАСЮК

ДА ЦЭНТРА падзямелля працiснулася някідкая постаць у чорнай бліскучай вопратцы. Мне падумалася: выпусці такога суб'екта на нашы гарадскія вуліцы — і ніводзін чалавек не зверне на яго ўвагі. Нікому і ў галаву не прыйдзе, быццам у такой непрыкметнай істоце можа месціцца нячысты, які загадвае Ісцінай.

Нячысцік Ісціны пачаў сваю справаздачу неяк занадта будзённа:

— Вельмі прашу высокі сойм дарэмна не хваляваццa. Нашы хітрыкі наколькі простыя, настолькі і надзейныя...

— Надзейныя? — зашумелі, загікалі нячыстыя. — Пакуль мы тут займаемся абмеркаваннямі, тлумачэннямі, справаздачамі, пасяджэннямі і іншымі карыснымі справамі, людзі, магчыма, завяршаюць разборку апошняй фальшывай кучы і вось-вось авалодаюць каштоўным зярняткам Ісціны...

зярнятак і ўсю працу пачніце спачатку, бо гэта і ёсць прагрэс, рух наперад, навацыя, адметная рыса вашага пакалення...

— І які вынік? — строга спытаў Вельзевул.

— Вы самі бачыце.

Памаўчаўшы, сціпла схіліўшы пляскатую галоўку долу, нячысцік Ісціны ціха прадоўжыў:

— Адно пакаленне самалюбных людзей змяняецца другім, кучы зерня зноў і зноў перамешваюцца і таму застаюцца неразабранымі. Ісціна надзейна ўкрываецца адным пакаленнем ад другога. Калі б людзі былі здольныя адкінуць сваю фанабэрыстасць і ганарлівасць, каб яны не ігнаравалі вопыт папярэднікаў, а прадаўжалі б іх лепшыя справы — усё на белым свеце змянілася б у лепшы бок. Вось тады нам, нячыстым, супраціўнікам роду чалавечага, сапраўды пагражала б небяспека. Ды пакуль людзі не зменяцца самі, пакуль кожнае пакаленне будзе

Але нішто не вечнае. Праз нейкі час людзі апамяталіся і асудзілі "справядлівыя" дыктатуры і дыктатараў. Здавалася, чорная паласа беззаконня прайшла, набліжалася светлая паласа — прававых законаў і прававых дзяржаў. Тады мы датумкалі: нам трэба дзейнічаць інакш. Браты нашы пачалі распальваць у людзях страсці: хіба гэта жыццё? Агледзьцеся навокал, на далёкія краіны — вось там людзі жывуць дык жывуць... Так у людской грамадзе ўзвысіліся беднасць і зайздрасць, расквітнелі беззаконне і безуладдзе. Людзі ахвотна падзялілі сябе на Вялікія і Малыя народы, на правых і вінаватых, на карэнных і прышэльцаў. Абсурд наблізіўся да ракавой рысы. Ніхто не хацеў слухаць голасу розуму, усіх задавальнялі міфы. Пачало збывацца тое, аб чым папярэджваў людзей апостал Павел: "Не тое раблю, што жадаю, а тое, што ненавіджу".

Пасля такіх слоў на сойме нячыстых падняўся неверагодны гам, паніка, хаос, і толькі непахісная воля і магутны аўтарытэт Вельзевула змаглі ўсталяваць такі-сякі парадак. Большасць нячыстых, не выслухаўшы да канца свайго сабрата, самі спрабавалі прапанаваць сойму надзейныя, з іх пункту гледжання, захады ўкрыцця ад людзей Ісціны. Адны прапаноўвалі схаваць Ісціну ў цянётах мікра- або макрасвету, даказваючы, што ў гэтых сферах многа няяснага, а ўсякая няяснасць у геаметрычнай прагрэсіі спараджае новыя няяснасці, таму людзям хопіць працы да сканчэння Свету. Найбольш разважлівыя прапаноўвалі схаваць Ісціну сярод супрацьлегласцяў менавіта ў тым месцы, дзе цэнтр раўнавагі, таму любы рух людзей направа ці налева парушыць баланс, і яны тысячагоддзямі будуць куляцца сюды-туды, адшукваючы Ісціну то на правым, то на левым полюсе, коўзаючыся ад адной да другой крайнасцяў. Многім падабалася такая прапанова: як золата растваpаецца ў царскай гарэлцы, гэтаксама растварыць Ісціну ў эфіры сонечнага святла, прамені якога будуць сляпіць людзей і не дазволяць ім разгледзець жаданае. Меліся і іншыя не меней хітрыя прапановы, якія выразна ўзбуджалі публіку, але нязменна выклікалі кіслую ўхмылку самога нячысціка Ісціны. Нарэшце прапановы скончыліся, і нячысціку Ісціны было зноў дадзена слова.

— Глыбокашаноўны народ, супляменнікі, — на гэты раз узнёсла пачаў ён. — Вашы смелыя прапановы, я мяркую, зыходзяць ад вашага высакароднага сэрца і вялікай душы, таму я бязмерна ўдзячны вам за шчырую дапамогу. Толькі, паводле закона, кожны з нас павінен займацца той справай, да якой прыстаўлены вялікім соймам і яго вялікасцю князем цемры. Вашы прапановы захапляючыя, але яны занадта складаныя, а таму ненадзейныя, бо чым больш складаны механізм, тым большы шанц яго збою ў самы непадыходзячы момант. Можам мы такое дапусціць?

— Не, не можам! — дружна, нібы першакласнікі, выгукнулі нячыстыя.

— Так, не можам, — пагадзіўся нячысцік Ісціны.

Тут у размову нечакана ўступіў Вельзевул:

— Але ці не можа захапленне прастатой прынесці бяды? Мне добра вядома: людзі, ахопленыя ідэяй, здольны працаваць доўга і зацята. Няхай праз тысячу гадоў, але людзі змогуць дакапацца і адшукаць зярнятка Ісціны.

— Такога не будзе, — цвёрда і спакойна стаяў на сваім падначалены.

— На чым грунтуецца такая ўпэўненасць? — незадаволена спытаў князь цемры.

— На выключна простай аснове: мы навеялі людзям ідэю крытычных адносін да вопыту папярэдніх пакаленняў. Ідэя простая, як сукаватая палка ў руках сляпога: кожнаму пакаленню людзей мы ўнушаем думку, быццам пакаленне іх бацькоў і дзядоў жыло няправільна, нерацыянальна, ішло не тым шляхам, не той дарогай. Маладому пакаленню падкідваем ідэйку: толькі вы, толькі ваша пакаленне здольна выправіць памылкі бацькоў і дзядоў. Мы тонка падказваем людзям: вы змяшайце горы ўжо перабраных ганарліва лічыць сябе лепшым і разумнейшым за папярэдняе — поспех нашай справе забяспечаны!

— А што як людзі адумаюцца, і сярод іх вылучыцца геній, які зразумее адвечную памылку сваіх супляменнікаў? Што будзе тады?

— Тое, што адбылося са шкодным графам Талстым: ён нечакана выправіцца ў нікуды. Яго з вялікай пашанай людзі пахаваюць, паплачуць, а назаўтра... змяшаюць зярняты і пачнуць усё спачатку.

— Чаму ж так неабачліва паступаюць людзі, якія лічаць сябе самымі разумнейшымі на зямлі? Чаму іх прарокі вандруюць у нікуды і патаемна знікаюць у цемры невядомасці?

Сойм прыціх. Мабыць, пытанне князя было і іх пытаннем.

— Калі коратка — таму што людзі абралі для сябе такі Закон, такое Права. Але аб гэтым дакладней раскажа наш брат, які адказвае за вышэйпамянёныя катэгорыі.

Нячысцік Ісціны галантна пакланіўся і пад ажыўленае галёканне супляменнікаў растварыўся ў цемры пячоры так раптоўна, быццам яго і не было. У цэнтр пячоры выціснулася з цемры новая постаць — вуглаватая, дзікаватая, ад якой пахла турмой, прымусам і несправядлівасцю.

— Я не мастак на прамовы, я — салдат, таму буду гаварыць прама, называць рэчы сваімі імёнамі, — так распачаў сваю прамову нячысцік, якому было даручана Права і Законы. — Усім вядома: калі супольна жывуць няхай дзве асобы, патрэбны правілы іх узаемаадносін, якія людзі называюць Правам і Законамі. Увесь жывы і нежывы свет мае такія правілы і ім падпарадкоўваецца. У людзей, у адрозненне ад жывёл і раслін, ёсць дараванае Богам права выбару паміж божымі і нашымі законамі. Ад выбару залежыць і лад жыцця: па божых законах людзі будуць жыць светла, радавацца адзін аднаму, небу, птушкам, сонейку, траўцы, жыць, нібыта ў іх душы ціхенька трэнькае срэбраны званочак. Нашы Законы вам вядомы: гэта вірлівае жыццё на страсцях, з узлётамі і падзеннямі, з непамернай пыхаю, з душэўным разладам і раздвоенасцю, з вялізнымі набыткамі і катастрофай іх страты. Фініш па нашых Законах для прагных людзей адзін — у рэшце рэшт усе іх намаганні сыдуць на нішто, у прах і пыл.

Раней, яшчэ ў час графа Талстога, мы паспяхова павучалі людзей: вы дрэнна жывяце таму, што ў вас кепскія князі, цары і імператары. Людзі слухалі нас і ўвязваліся ў бясконцыя мяцяжы, рэвалюцыі, у хаос і грамадзянскія войны. Урэшце людзі зразумелі: найлепшая форма праўлення, калі яны, людзі, будуць выбіраць сабе кіраўнікоў, і тады для замены іх непатрэбны войны і рэвалюцыі. Затым мы падсунулі чалавецтву Вялікага Жыда і Вялікага Немца, якія сказалі: адбяром і падзелім набыткі багатых і зажывём панамі.

Ад вучэння Жыда і Немца свет прыйшоў у рух. Людзі плакалі ад шчасця і перспектыў, якія нечакана ім адкрыліся. Яны не шкадавалі ні сябе, ні сваіх супляменнікаў у імкненні пабудаваць чалавечы рай па "справядлівых" законах дыктатуры ў спалучэнні з адсутнасцю ўсякіх прававых Законаў. Палымяныя заклікі, вера ў нішто і турэмны ланцуг асвятлялі іх дзеянні. Свет уступіў у паласу кашмараў і кашмарыкаў. Нават цывілізаваныя еўрапейскія народы не жадалі жыць інакш, як пад опіумам "справядлівасці". Права, Закон, Розум былі падменены страсцямі натоўпу і яго правадыроў. Мільёны людзей, не разгінаючы спіны, працавалі за медзякі, і іх сцягам была палымяная вера ў светлае будучае і спапяляючы страх іншадумства.

Улады наваднілі гарады паліцэйскімі і пераканалі сябе — інакш жыць нельга. Права і Законы людзі пабудавалі не на любові, а на гвалце і прымусе, якія здольныя спарадзіць толькі падобных сабе — злачынны свет, злачыннае права, злачынныя законы. Людзі звыкліся з аксіёмай: пакуль існуюць людзі, будзе існаваць і злачыннасць.

— А хіба ты, брат, не згодны з аксіёмай?

Пытанне Вельзевула заспела нячысціка Права і Законаў знянацку. Ён па-дзіцячы, бездапаможна агляНуўся навокал, як бы адшукваючы сабе падтрымкі, а затым, бадзнуўшы пляскатай галоўкай, працягваў:

— Так і не так! Чалавецтву вядома Ісціна, якая б магла стаць краевугольным каменем Сусветнага Царства Справядлівасці і Дабра.

— Людзі ведаюць Ісціну, якая забяспечвае Дабро і прававыя Законы? Ці мо я недачуў, брат наш? — ціха, але з трывожнай унутранай сілай спытаў Вельзевул.

Нячыстыя таксама ўстрывожыліся, бо і для іх нечаканым быў паварот, быццам людзі ведалі, як змяніць сваё жыццё і жыць у святле Дабра і Справядлівасці, але дзіўным і незразумелым чынам не рабілі гэтага.

Нячысцік Права і Законаў абвёў разгубленым позіркам калег і, нібы акунуўшыся ў ледзяную ваду, як бы адбываючы цяжкую павіннасць, вяла распачаў свой аповед:

— Бог дараваў людзям, як вядома, свабоду выбару між Дабром і Злом, між боскім і нячыстым. Людзі дзіўным чынам прызвычаіліся выбіраць для сябе горшае, яны пагардліва адвяргаюць той камень, які стаў бы падмуркам іх шчасця.

— Краевугольны камень людскога шчасця? — здзіўлена закруцілі галовамі нячыстыя. — У чым існасць гэтага таемнага каменя?

— Высокі сойм! — збянтэжана адказаў нячысцік Права і Законаў. — Вы патрабуеце таго, што вышэй маіх сіл. Я не магу слова ў слова пераказаць Таго, хто за ганарлівасць скінуў нас з Нябёсаў у апраметную. У мяне хутчэй адыме мову, анямее язык, прападзе слых, адваліцца хвост, трэснуць капыты, выпадзе поўсць...

— А ты, братан, не называй святога імя, забароненага ў княстве Цемры. Няхай застануцца ў цябе цэлымі і твой язык, і капыты, і твой цудоўны хвост, і ўсё іншае, патрэбнае і неабходнае. Ты без спасылак на святую Асобу, сваімі словамі перадай сутнасць, — разважліва, нетаропка настаўляў Вельзевул.

Нячысцік Права і Законаў уцягнуў галаву ў плечы і, быццам з яго выціскалі кожнае слова, неахвотна загаварыў:

— Нехта з Вялікіх і Недасягальных даў запавет людзям: "Як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так і вы паступайце з імі".

— І гэта ўсё? — расчаравана спытаў князь цемры. — Гэта і ёсць краевугольны камень чалавечага Права і Законаў?

— Так, — надломленым, ціхім голасам пацвердзіў нячысты.

— І гэтая ісціна зможа змяніць жыццё грэшных людзей? — нахмурыўся Вельзевул.

— Зможа, — запэўніў нячысты. — Калі гэтую ісціну прымуць людзі, то самі сабою адпадуць ілжывая сістэма юстыцыі, вірлівая паліцыя, замшэлая пракуратура...

— Адменіць афіцыйную юстыцыю? І гэта зробяць усяго дзесяць слоў, якія заключаюць Ісціну?

— Заменяць, тут няма ніякіх сумненняў. На чым трымаюцца ўсе людскія спрэчкі? На вядомай першааснове: адзін хоча разжыцца за кошт другога. Гэта так?

— Так, — хорам пацвердзілі нячыстыя. — Мы гэта выдатна ведаем і на гэтым квітнеем.

— Дык вось, на хвіліну ўявім, што спрэчныя бакі зменяць пазіцыю, і кожны будзе імкнуцца як мага лепш паставіцца да свайго супраціўніка. Што ў гэтым выпадку атрымаецца?

— Цяжка сказаць, — зашапталіся між сабой нячыстыя. — Ворагі да ворагаў могуць ставіцца выключна як ворагі, на гэтым стаіць чалавечы свет.

— Добра. Растлумачу на прыкладзе. Нейкі Іван сустрэў не знаёмага яму Джона: "У мяне хворая дачка, дай мне на яе лячэнне грошай". Як паступіць Джон?

— Джон грошай не дасць, — упэўнена адказалі нячыстыя.

— Не дасць, — пагадзіўся нячысцік Права і Законаў. — Джон падумае: "Чаму я павінен даваць грошы незнаёмаму Івану? У нас закон: маё — гэта маё". А як паступіць Іван?

— Іван адбярэ, украдзе ці выманіць грошы ў Джона, — засмяяліся нячыстыя.

— Так яно і адбудзецца. Значыць, каб адстаяць свае грошы, Джону патрэбны юстыцыя, паліцыя, адвакаты, пракуроры, следчыя, ахоўнікі, дарадцы, натарыят, турмы і шмат чаго іншага. На ўзаемаадносінах Івана і Джона, за іх кошт, кормяцца тысячы служкаў Феміды. Куды было б танней Джону выдаткаваць невялікія грошы Івану, каб не плаціць усёй гэтай камарыллі служкаў права.

— Чаму ж людзі адверглі такі слаўны і патрэбны ім краевугольны камень Божага права і Божых законаў?

Нячысцік Права і Законаў набычыўся, надзьмуўся, затым безнадзейна махнуў лапай:

— Я салдат, браты мае. Мая справа — ваяваць, а не разважаць. Ёсць супляменнікі, якія ўмеюць растлумачыць, чаму людзі выбіраюць толькі горшае. Які ўжо час мне падае красамоўныя знакі брат наш, адказны за Мараль. З павагаю саступаю яму месца...

На сойме трымалі справаздачу ўсё новыя і новыя нячыстыя. Мне падалося, што ўвесь чалавечы свет ужо даўно падзелены імі на квадраты і квадрацікі, на рэгіёны, вобласці і сельсаветы, кожны шматок чалавечага быцця апынуўся ў сферы іх уплыву. Якіх тут толькі ні было загадчыкаў, начальнікаў і ўпаўнаважаных: па гандлі, па дзявочай цноце, мужчынскай сіле, грамадскіх сметніках, атамных і цеплавых электрастанцыях, леках, дактарах і ветэрынарах, свойскай жывёле, грамадскай думцы, хіміі ў побыце і на вытворчасці, газетах і часопісах, вадаёмах, рыбе і гэтак далей...

Я хапіўся за галаву, прыціснуў далоні да вушэй, каб не чуць і не бачыць, як людзі аблытаны нябачнай павуцінай нячыстых. Не ведаю, колькі часу праседзеў я, зажмурыўшыся і заціснуўшы вушы, каб не чуць таго, што гаварылася там.

Калі я ачнуўся, на трыбуне быў князь цемры Вельзевул. Ягоная прамова ўразіла мяне.

— Вы пытаеце мяне, чаму такія, а не іншыя людзі? Пытанне вечнае, яно простае і бязмежна складанае, бо няма адназначнага адказу. Існасць пытання — у прыкладзе з каменьчыкам.

— З каменьчыкам? — запыталі нячыстыя. — Якім каменьчыкам? Мы аб каменьчыку нічога не чулі...

— Добра, — супакоіў супляменнікаў Вельзевул. — Пачнём спачатку. Адкажыце мне: ці ўсемагутны Бог?

— Так, Бог усемагутны!

— Тады адкажыце мне: ці можа ўсемагутны Бог стварыць такі камень, каб сам не змог падняць?

— Так, Бог усемагутны і ён можа ўсё.

— Калі Бог не зможа падняць створаны ім жа камень, ці ўсемагутны тады Бог?

Нячыстыя войкнулі, як дзеці, злоўленыя ў чужым гародзе, разгублена прыціхлі. Выходзіла, Бог — усемагутны і адначасова — не ўсемагутны. Такую супярэчнасць успрыняць сваім розумам яны не маглі.

— Вось у гэтым каменьчыку галоўная таямніца чалавека...

— Але мы не разумеем гэтага хітрага каменьчыка. Растлумач нам, малым і неразумным...

— У Пісанні сказана: у людзей і жывёл "адно дыханне". І ў чалавека, і ў жывёл тыя ж сэрца, печань, ныркі, кроў. Толькі адным Бог аддзяліў чалавека ад жывёл — Бог даў чалавеку свабоду. Свабоду выбару між святлом і цемрай, між Богам і намі, нячыстымі. Мы навяваем салодкія мроі, і людзі выбіраюць нас, нячыстых. Так склалася ад пачатку, з сівой даўніны...

— Ці не прасцей тады Богу пазбавіць людзей свабоды, каб яны кінулі грашыць, каб сталі пакорлівымі, ціхмянымі?

— У тым і праблема: калі пазбавіць людзей свабоды выбару, чым тады людзі будуць адрозніваццa ад жывёл? Без свабоды людзі перастануць быць людзьмі. Бог, надзяліўшы чалавека свабодай, стварыў такі "каменьчык", які і сам не можа адолець...

— Ага! — нечакана загаласіў адзін з нячыстых. — Патрэбны адбор, селекцыя... Патрэбны войны, мор, рэвалюцыі, рэформы — няхай слабыя і нікчэмныя гінуць, а найбольш вёрткія і моцныя — выжываюць. У рэшце рэшт селекцыя зробіць сваю справу — род чалавечы абавязкова стане лепшым.

— Было і гэта ў чалавечай гісторыі, але ці палепшыўся чалавек?

*Іван Басюк родам з Навагрудка. 26 гадоў быў вайскоўцам, пайшоў у адстаўку ў званні палкоўніка. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт юрфака Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.*

*У "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.*

*па баках*
*заўважаючы*
*ўпадак эпісталярнага майстэрства*
*і мастацтва*
*ўвогуле*
*трэба мець прыгожы твар*
*на кожную аказію Хоць бы*
*тая аказія была апошняй*
*ці няпраўда ж?*
*1972*

## Вяртанне па-над Крэмна

*За жыцця палавінай збочыў я Лес*
*абцякаў позьнім сонцам*
*і ягонага паміраньня*
*Не ўстурбоўвала нават брынчэнне мухі*
*(Столькі дрэў аголеных столькі ранаў*
*што пахнуць яшчэ летам)*
*Боязна было дыхаць*
*Флейта неба маўчала і флейта*
*Монікі*
*Вада — старая пасцель*
*(Дзе раззлошчаныя пыскі шчупакоў?*
*Рыбіны ў норах?)*
*Падвешаная*
*вышэй — дасыхаюць шкілеты вольх*
*(Дзе нашыя світальныя вудачкі?)*
*Ёсць толькі палкоўнік-пенсіянер Як тады*
*зацёклы потам*
*Барсук які вяртаецца да*
*ўсмерчанага лесу смутнай вады*
*і ўсё прэ кош грыбоў*
*і пяткі мае пакалечаныя*
*ці ж у гэтай перадсмяротнай*
*сутарзе краявіду*
*магу я сябе адшукаць?*
*1983*

Богдан ДРАЗДОЎСКІ
*(Нар. 1931)*

*Дайце спакою людзі*
*Дайце спакою людзі*
*дайце спакою*
*Целепнем сэрца ў грудзях*
*і сляза вока кроіць*

*Дайце спакою-даброці*
*змыслім што змоўчым*
*Сэрца трымаць на аброці*
*пры праве воўчым*

*Дайце спакою хоць трошкі*
*лёсу майму відэльцу*
*Ото бараняя ножка*
*жытнёўка ў бутэльцы*

*Дайце спакою на кухні*
*дайце пры фляшцы*
*Хай цярпенне распухне*
*скулай на ляшцы*

*Хай спапялюся як хвоя*
*а попел мой звее на гоні*
*дайце ах дайце спакою*
*Ніштo апроч цішы не звоніць*
*1953*

Ежы С. СІТА

## Прыязнічанне з абстракцыяй

*Смертухно*
*была б ты ніжэй мяне*
*калыхаў бы цябе*
*а так мішэнь майго бруха*
*стралы тваёй не слухае*

*фігухно*
*сохнуць табе марна і не зімой*
*горкі яблык Эпіктэта са мной*
*у ім жалеза у ім чарвяк марны*
*Ляшак тваіх ужо не адшараваць*

*Смертухно*
*не мне ж у тваю раллю*
*насенне кідаць што люблю*
*па мне сляды заграбаеш*
*прахам абрадзі з сябе ж*

*Не чуйны на красу свету гэтага*
*конь мой белы*
*ды іншага мы не займелі*

*дрэва*
*абрадзі чалавека*
*цябе выглядваю звонячы векам*
*грукаючы і гукаючы*
*сохну ў чаканні прападаючы*

*Смертухно*
*абрадзі ім не шкадуй*
*ураз з хлебам што я даў яму жуй*
*З соллю-болем у маім воку*
*што нашу не аднаго року*
*распятага я зняў яго з брамы голаду*
*ён жа плач даў мне і ўдаль сыйшоў*
*("Зняццё з каляса", 1960)*

ПАМЯЦЬ

***Вестка з Рагачова апякла болем: памёр дабрэйшы чалавек, таленавіты педагог і паэт Уладзімір Немізанскі. Што яшчэ сказаць? Бачыць Бог, не ведаю. Мусіць, адно: выказваючы спачуванне жонцы і сыну, сябрам нябожчыка, хачу ўсё ж, каб матэрыял "Музей Немізанскага", які быў падрыхтаваны да друку незадоўга да смерці яго галоўнага героя, пабачыў свет на старонках паважанага тыднёвіка.***

***Давайце ўспомнім гэтага чалавека. Якім ён быў. Як ён жыў. На вялікі жаль, мала, — усяго 61 год. Намнога больш, трэба спадзявацца, будзе жыць памяць пра яго ў сэрцах многіх людзей.***

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Музей Немізанскага

**Цудоўны літаратурны музей "Пісьменнікі-землякі" створаны ў Рагачове. Гэтаму спрыяла не толькі шчодрая на таленты прыдняпроўская зямля, але і захопленасць аднаго чалавека — шчырага энтузіяста, таленавітага педагога і паэта У. Л. Немізанскага. Сам родам з Віцебшчыны, ён, выпускнік педінстытута, а потым камсамольскі работнік, пераехаў на радзіму жонкі. І прыжыўся тут надзвычай трывала — назаўжды, як прызнаецца, сам. Доўгі час працуе выкладчыкам у педвучылішчы. Таму і літаратурны музей, вядома ж, створаны на базе гэтай навучальнай установы. Калі Немізанскі звярнуўся да кіраўніцтва з просьбай выдзеліць памяшканне, яму не адмовілі. Дзейнічай, Львовіч! І Львовіч узяўся за справу, закасаўшы, як кажуць, рукавы.**



**— Уладзімір Львовіч, пахваліцеся, калі ласка, што ўяўляе сабой сёння літаратурны музей?**

— Экспанатаў у нас — больш за чатыры тысячы. Пісьменнікаў, звязаных з нашым горадам і раёнам (нарадзіліся, працавалі, вучыліся) — 330 чалавек. Лічба салідная, ці не так? Я і сам раней не ўяўляў нават, што яна можа быць такой. Асноўны фонд складаюць кнігі літаратараў-землякоў, галоўным чынам з аўтографамі, фотаздымкі, дакументы, артыкулы ў перыядычным друку і іншыя каштоўныя матэрыялы. Музей ахвотна наведваюць і мясцовыя жыхары, і госці горада. Дастаткова сказаць, што толькі летась тут пабывала каля 500 чалавек.

**— А як стварался музей? Дапамагалі, ці ўвесь цяжар лёг толькі на адны плечы?**

— Збіраў матэрыял па крупінках, гэта не сакрэт. Наведваў пісьменнікаў, іх сваякоў, сяброў, працаваў у рэспубліканскім архіве літаратуры і мастацтва, у галоўнай бібліятэцы нашай рэспублікі і ў іншых бібліятэках. Вёў перапіску. Сачыў за перыядычным друкам. Побач аказаліся, і надзвычай своечасова, сябры-аднадумцы: настаўнікі Аляксандр Лейкін і Уладзімір Бандарэнка, супрацоўнік раённага музея Аляксандр Рыкуноў, былы кіраўнік Рагачоўскага краязнаўчага цэнтра Марат Гаравы, загадчыца дзіцячай бібліятэкі Нінэль Падгурская. Многія экспанаты, якія мы сёння бачым у музеі, з'явіліся толькі дзякуючы ім. Дапамагалі, вядома ж, і навучэнцы педвучылішча.

Вельмі ўдзячны я таксама сваякам пісьменнікаў — унучцы Міхася Лынькова Ірыне, брату Мікалаю Ціханавічу, сястры Уладзіміра Караткевіча Наталлі Сямёнаўне Кучкоўскай, цётцы Галіне Мікалаеўне Грынкевіч, дачцэ Фёдара Куляшова Наталлі Фёдараўне Паповай, жонцы Фёдара Янкоўскага Серафіме Андрэеўне і многім іншым. Што цікава — я ніколі, сустракаючыся ўпершыню з гэтымі людзьмі, не прад'яўляў ім ніякіх дакументаў. Верылі. Не маглі па сваёй душэўнай чысціні нават дапусціць думкі, што нехта можа спекуляваць на самым святым для іх — памяці пра дарагіх і блізкіх людзей.

**— Што, так усё лёгка ішло, гладка? Ці сустракаліся цяжкасці?**

— Хапала і цяжкасцяў. Хоць цяжкасцямі тут назваць усё можна хіба што ўмоўна. Вось, скажам, доўга шукаў я раённую газету "Камунар" даваенных гадоў. Ні ў Гомелі, ні ў архіве Вярхоўнага Савета няма. І зусім выпадкова, праглядаючы картатэку беладдзела Нацыянальнай бібліятэкі, знайшоў падшыўкі 30-х гадоў "Камунара". Так з'явіліся ксеракопіі літаратурных старонак з вершамі Алеся Жаўрука, Міколы Сурначова, Міхася Скрыпкі, Алега Радзівонава і іншых літаратараў перадваеннага часу.

**— Шырока прадстаўлены ў музеі, і на гэта нельга не звярнуць увагі, народны пісьменнік Андрэй Макаёнак. Афішы, кнігі, праграмкі... Як, цікава, яны з'явіліся ў музеі?**

— У асноўным — па пошце. Перапісваўся з некаторымі тэатрамі, дзе ставіліся п'есы не толькі Андрэя Ягоравіча, але і іншых драматургаў-землякоў. Так вось, напрыклад, з Беларускага акадэмічнага драмтэатра імя Я. Коласа даслалі, акрамя афіш, фотаздымкі са спектакляў па п'есах Макаёнка, з Брэста даслалі газетныя рэцэнзіі, нават магнітафонны запіс размовы слыннага драматурга са стваральнікамі спектакля "Верачка".

Нарадзіўся ў Рагачове, як вядома, празаік і драматург Уладзімір Мехаў, у вышэйшай ступені інтэлігентны чалавек, аўтар шматлікіх пастановак на радыё і тэлебачанні.

Шырока прадстаўлены ў музеі і Мікола Гроднеў, ён з вёскі Старая Алешня. Напісаў шмат дакументальнай прозы, героямі якой з'яўляюцца нашы землякі. Таму яго кнігі цікавыя для нас, рагачоўцаў, удвая.

Даўно ўжо — з добры дзесятак гадоў — вядзецца перапіска з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, цудоўным чалавекам, чалавекам шчодрай душы Аленай Сямёнаўнай Васілевіч, для якой Рагачоў, дзе яна скончыла настаўніцкі інстытут, застаўся самым светлым успамінам юнацтва. Яна шмат чым папоўніла наш фонд. І самы каштоўны, мусіць, экспанат, — заліковая кніжка студэнткі А. Васілевіч 1939—1941 гадоў.

Пра ўнучку Міхася Ціханавіча Лынькова Ірыну я згадваў вышэй. Ды не лішне будзе дадаць, што яна даслала нам такія асабістыя рэчы свайго дзеда, як запісныя кніжкі, запісы, прывезеныя з сесіі ААН, тры фотакарткі, зробленыя Лыньковым: ён, як вядома, быў заўзятым фотааматарам.

**— Відаць жа, трапляюць у музей экспанаты і самым непрадбачлівым, непрадказальным чынам? Ці былі такія выпадкі?**

— Яшчэ колькі! І гэта вельмі шчаслівыя для мяне асабіста выпадкі. Вось колькі прыкладаў. Бабуля распальвае печ газетамі — старымі, пажоўклымі... Але што гэта за выданне? 1943 год. "Раздавім фашысцкую гадзіну!" Арыгінал. З фельетонам М. Лынькова. Ну дзе яшчэ можна было адкапаць такі экспанат?

Бібліятэкар жа нашага вучылішча Людміла Міхайлаўна Купрэева прынесла рэдкую (і, здаецца, адзіную ў пасляваенны час) кнігу Ядвігіна Ш. 1946 г. выдання. Вельмі каштоўны, пагадзіцеся, экспанат. Хіба ж я разлічваў на яго? Безумоўна — не. Але жыццё прыпаднесла прыемны сюрпрыз.

Мала хто можа пахваліцца, што мае кнігі аднаго з заснавальнікаў савецкай яўрэйскай паэзіі, кавалера ордэна Леніна Самуіла Галкіна (ён нарадзіўся ў Рагачове). Мой добры сябра Уладзімір Бандарэнка адпачываў неяк у санаторыі, дзе ў размове з артысткай Гродзенскага драмтэатра дaведаўся, што ў яе ёсць кніга Галкіна з серыі "Бібліятэка савецкай паэзіі". Пасля яна даслала яму гэтую кнігу, а ён перадаў у музей.

Асобна хочацца сказаць пра Міхаіла Расолава, члена Саюза пісьменнікаў Расіі, доктара юрыдычных навук, які нарадзіўся ў в. Ціхінічы. Ён не толькі перадае ў музей свае кнігі, а выдаецца даволі часта, але і спрыяе выданню кніг рагачоўцаў у Маскве. Дзякуючы яму, там пабачылі свет кнігі Васіля Дружкова, Юрыя Арэстава, мая, а таксама калектыўная "Вдохновение".

**— Музей, безумоўна, павінен выконваць сваю галоўную функцыю — прапагандаваць творчасць пісьменнікаў-землякоў. І робіць ён гэта, як я бачу, надзвычай паспяхова.**

— Сапраўды так. У музеі пабывалі навучэнцы многіх школ Гомельшчыны, а вучні сярэдняй школы N 44 г. Гомеля — тройчы. Вядома ж, частыя госці ў нас навучэнцы педвучылішча, школ райцэнтра і раёна. Але ж праводзім не толькі экскурсіі. Часта ладзім мерапрыемствы, прысвечаныя круглым датам, прэзентацыі кніг, сустрэчы з пісьменнікамі, якія прыязджаюць у наш горад. Свае людзі, як кажуць, у музеі і мясцовыя аўтары — Васіль Дружкоў, Юры Арэстаў, Міхась Сліва, Ніна Пінчук.

**— Чуў, Уладзімір Львовіч, што першакурснікаў вы першай справай абавязкова прыводзіце ў музей.**

— І не толькі прыводжу, але выкладанне беларускай літаратуры пачынаю з цыкла лекцый "Пісьменнікі-землякі". Рэгулярна друкую матэрыялы пра пісьменнікаў-землякоў у раённай газеце "Свабоднае слова".

**— Усё гэта, відаць, спрыяе з'яўленню ў педвучылішчы сваіх паэтаў, празаікаў?**

— Безумоўна. Падчас працы стараюся заўважаць таленавітых навучэнцаў. Для гэтага праводжу конкурсы, творчыя ўрокі. У каго выяўляю здольнасці, займаюся з імі потым асобна. І ёсць вынікі. Найбольш здольныя навучэнцы друкаваліся ў часопісе "Першацвет", у абласной газеце "Гомельская праўда", у раённай, у альманахах "Рагачоўскі розгалас" і "Залаты рог", што выходзілі ў Рагачове. А вынікам маёй пятнаццацігадовай такой працы стала кніга "Маладыя галасы", якая зараз рыхтуецца да друку і неўзабаве пабачыць свет. У ёй будзе 145 лепшых вершаў 96 аўтараў — і сённяшніх навучэнцаў, і выпускнікоў. Скажу пра некаторых з іх. Вось Вікторыя Сотнікава, выпускніца, працуе сёння настаўніцай пачатковых класаў у Кіраўскім раёне, завочна вучыцца ў Магілёўскім універсітэце імя А. Куляшова. Упэўнены: яна будзе паэтэсай, яе імя мы яшчэ пачуем.

Алесь Пугач — паэт пачынаючы, другакурснік. Двойчы быў пераможцам у гарадскім конкурсе на лепшы літаратурны твор сярод моладзі.

**— Літаратурны музей, наколькі мне вядома, з'яўляецца гонарам усяго раёна. Падтрымку з боку кіраўніцтва атрымліваеце?**

— Пастаянна. Што радуе. Удзяляюць увагу і старшыня райвыканкама М. Федаровіч, і яго намеснік Р. Ястрэмская, і загадчыца аддзела культуры А. Мармо. Ды і кіраўніцтва нашага вучылішча заўсёды ідзе насустрач. Удзячны і былому дырэктару Р. Галоўчанку, і цяперашняму А. Гапонаву. У верасні мінулага года, дарэчы, музею выдзелены яшчэ адзін пакой, дзе я абсталяваў метадычны аддзел і што дало магчымасць вызваліць плошчу для трох вітрын і трох стэндаў у аглядальнай зале музея.

**— Напрыканцы некалькі слоў пра свае творчыя набыткі і планы. Вы ж — паэт...**

— Першы верш я надрукаваў у 1957 годзе ў полацкай райгазеце "Сцяг камунізма". Друкаваўся ў дзесяці калектыўных зборніках. Маю і два ўласныя — "Іду да сябе" і "Чатыры зярняткі". Падрыхтаваны да друку яшчэ дзве кнігі вершаў...

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменнікам ВАСІЛЕЎСКАЙ Галіне Ануфрыеўне і ВАСІЛЕЎСКАМУ Пятру Савельевічу з прычыны напаткаўшага іх гора — смерці сына Юрыя.**

**Супрацоўнікі рэдакцыі "ЛіМа" выказваюць глыбокае спачуванне рэдактару аддзела Пятру ВАСІЛЕЎСКАМУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю брата Юрыя Пятровіча.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя" выказвае шчырае спачуванне загадчыку аддзела, пісьменніку Паўлу САКОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці брата Анатоля Паўлавіча.**

